

*„Людзьмі звацца!“*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 8 чэрвеня 1990 г. № 23 (3537) ⊙ Цана 10 кап.


## «Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча...»



Дзядзька Міхал ЛЯПЕХА ўрачыста адкрывае дом-музей песняра.



Кветкі на магілу.



Слова пра Мацея Бурачка гаворыць намеснік старшыні СП БССР Уладзімір ПАЎЛАЎ.

**Узмоцненае дынамікамі, паэтава слова лунае над наваколлем, склікаючы людзей туды, дзе на паляне змайстравана сцэна і рады лавак, што не паспелі яшчэ страціць свайго смалістага водару:**

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

**А дудка і сапраўды грае. І не толькі дудка, а і гармонік, і скрыпка. Ім уторыць бубен. Кранальная, чыстая, надта ж наская мелодыя чуваць і ля Трахімаў, і ля Вадацэчы, і ля Дубелішкаў, Лапішкаў...**

**Па інерцыі ледзь было не напісалася — мясцін, такіх знаёмых сэрцу кожнага беларуса. На жаль, хоць і знаходзяцца яны паблізу Кушлян, але большасць з нас ведаюць толькі пра самі Кушляны — колішнюю сядзібу Францішка Багушэвіча. Прыгадаюць хіба яшчэ Свіраны (цяпер тэрыторыя Літвы), дзе будучы класік нацыянальнай літаратуры нарадзіўся, і Жупраны — месца апошняга яго прыстанішча. Што ж, звыклае наша нацыянальнае нядбайства, ад якога мы ўсё ж пакрысе пачынаем пазбаўляцца. 150-годдзе з дня нараджэння Мацея Бурачка — нашага першага нацыянальнага паэта Францішка Багушэвіча — сталася яшчэ адной мажлівасцю далучыцца да нашых вытокаў.**

**У мінулую суботу ў Смаргонскім раёне прайшло Рэспубліканскае свята паэзіі, якое стала свайго роду падагульненнем багушэвічаўскіх юбілейных урачыстасцяў. Пачалося яно са згаданага паэтычнага прадстаўлення «Мая дудка», падрыхтаванага мясцовым народным паэтычным тэатрам**

(Працяг на стар. 2—3).

## У НУМАРЫ:


**«ЧАКАЦЬ НАМ ЗАСТАЛОСЯ НЯДОЎГА...»**
Сустрэча ў «Дэпутацкім клубе «ЛіМа» — 2

**АЛЬТЭРНАТЫВА**
Нататкі эканаміста — 3, 15

**«ДЗЕЛЯ АГУЛЬНАЙ СПРАВЫ»**
М. СЯДНЁЎ — госць рэдакцыі — 4

**КНІГА З АБПАЛЕНЫМІ СТАРОНКАМІ**
«КРЫВІЧЫ»: новае прачытанне — 6—7

**«АБЭЦЭДАРШЧЫНА»**
Развагі пра манапалізм у навуцы — 13, 14—15



*Дэпутацкі клуб «ЛіМа»*

# Рыгор ВЯЧЭРСКІ:

# «ЧАКАЦЬ НАМ ЗАСТАЛОСЯ НЯДОЎГА...»

**Слова «вылучэнец» трывала ўвайшло ў наш лексікон. Гэтаксама як і ўсё, што з ім звязана, замацавалася ў нашым жыцці. Прасоўванне не самага здольнага, ды найбольш зручнага па службовай лесвіцы аж да дасягнення ім «вышэйшага ўзроўню некампетэнтнасці» — вось вам і «вылучэнства». Інакш кажучы, кадравая палітыка.**

**А — «самавылучэнец»! Слова такога няма. І хоць я не заклікаю папоўніць ім слоўнікі, няма невыпадкова. Доўгі час вылучыцца са «шчыльных радоў» можна было ці не адзіным спосабам — узяць «самаадвод»...**

**Мой субяседнік — Рыгор Арсенцьевіч Вячэрскі. 1932 года нараджэння, беларус, доктар медыцынскіх навук, прафесар, загадчык кафедры Інстытута ўдасканалення ўрачоў, народны дэпутат БССР. 17 мая ён вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, выступіў з узважанай праграмай. 18 мая — зняў сваю кандыдатуру на карысць іншага прэтэндэнта.**

**Спадзяюся, не ў мяне аднаго тымі днямі дэпутат Вячэрскі выклікаў сімпатыю. Прычым, не столькі самім фактам самавылучэння, колькі тым, як правёў, выканаў Рыгор Арсенцьевіч сваю «партыю» — разважліва, грунтоўна, годна. Хоць, трэба думаць, учынак гэты каштаваў і нервовага, і інтэлектуальнага напружання. А таксама — мужнасці.**

— Я рашыўся на гэты крок, выразна ўсведамляючы тыя праблемы, што востра паўсталі перад рэспублікай. Іх шмат. Жыццё стала надзвычай складаным і цяжкім. Людзі стаміліся ад абяцанняў, якія з лёгкасцю незвычайнай кідаліся ў натоўп. Але — міналі дзесяцігоддзі, а абяцанкі заставаліся абяцанкамі. Цяпер жа і рэшткі ілюзій знікаюць.

Ведаеце, мяне і па-чалавечы, і па-дэпутацку хвалюе, як хутка многія з нас, заняўшы крэслы ў парламенце, забыліся, у чым кляліся перад тысячамі выбаршчыкаў. Адказваю за свае словы, бо тут, у зале, бачу, як губляюцца ў пяску абыякавасці шматлікія прагрэсіўныя ідэі.

Лічу, што мой учынак у пэўнай ступені прымусіў калег па дэпутацкім корпусе задумацца, успомніць, дзеля чаго ўсе мы сабраліся разам. У маёй праграме, калі памятаеце, акцэнты былі зроблены на тых пытаннях, якія не закраналі астатнія прэтэндэнты. Найперш маю на ўвазе безабароннасць значнай часткі насельніцтва — старых, дзяцей, моладзі, у прыватнасці, студэнцтва. Ганебная сацыяльная несправядлівасць ракавай пухлінай раз'ядае наша грамадства. Колькі ж можна трываць абдзеленасць і зняважанасць адных і незаслужаныя прывілеі другіх?

З іншага боку, сваім самавылучэннем я імкнуўся стварыць спрыяльныя ўмовы для выбрання найбольш дэмакратычнага, кампетэнтнага, аўтарытэтнага Старшыні. У мяне, вядома, не было ні кроплі сумнення наконт дэмакратычнасці і прагрэсіўнасці дэпутата Шушкевіча, але быў я перакананы і ў тым, што ён не вытрымаў бы нават першага тура галасавання, калі б раптам зняў сваю кандыдатуру шаноўны Уладзімір Васільевіч Кавалёнак. Мяркую, што і цяпер Станіславу Станіслававічу не будзе лёгка жыць і працаваць.

**— Цікава, як прарэагавалі на ваш учынак вашы выбаршчыкі! Ці быў ён для іх нечаканасцю?**

— Так, гэтага я выбаршчыкам не абяцаў. Тым не менш, атрымаў шэраг лістоў і тэлеграм, у тым ліку і калектыўных, дзе мой учынак ухваляўся. А некаторыя выбаршчыкі нават выказалі расчараванне, калі я зняў сваю кандыдатуру. Але ж я быў паслядоўны...

**— Калі вы бралі самаадвод, то, сярод іншага, сказалі такія словы: «Перабудова не здзейснілася». Ці не маглі б вы зараз больш падрабязна растлумачыць, што мелася на ўвазе?**

— Я меў на ўвазе адступленне ад прыярытэту палітычнай перабудовы, якое лічу вялікай памылкай. Пытанне аб уладзе ўсё яшчэ не вырашана. Сам камуніст з амаль саракагадовым стажам, я, аднак, чакаў, што перабудова пачнецца менавіта з партыі, з партыйнага кіраўніцтва. Нельга не заўважаць крокаў у напрамку дэмакратызацыі, рэформы палітычнай сістэмы, але працэс гэты павінен быў адбывацца больш хутка, актыўна і надзейна. Нерашучасць, палавінчатасць перамен, іх расцягнутасць у часе прывялі да таго, што партыя яшчэ не аддала ўлады Саветам.

**— Затое «перамясцілася» ў Саветы!**

— Так, прычым надзвычай актыўна. Я сказаў бы — эшаланіравана. Зірніце, што сёння адбываецца. Стары апарат, валодаючы адпрацаваным механізмам улады, імкнецца перанесці сваю стратэгію і тактыку ў Саветы. А гэта згубны шлях для станаўлення сапраўднага народаўладдзя. Нават у Вярхоўным Савеце наш родны апарат дэманструе сваю хватку і вопыт, каб трымаць сітуацыю пад кантролем.

Хоць, як кажуць, дай божа, каб я памыліўся...

Вы не маглі не чуць, што некаторыя дэпутаты пастаянна абураюцца, маўляў, нас нехта падзяліў на дэмакратаў і кансерватараў. Але ніхто нікога не дзяліў. Дэпутаты размяжоўваюцца самі— паводле поглядаў, пад уплывам тых працэсаў, якія разгортваюцца ў парламенце і па-за яго сценамі. Усе мы навідавоку, і адразу відаць, хто шчыра жадае дэмакратычных перамен, а хто ім замінае.

**— Але ж пагадзіцеся, Рыгор Арсенцьевіч, за плячамі кожнага дэпутата каля трыццаці тысяч выбаршчыкаў, для большасці перадвыбарчая кампанія была надзвычай гарачай, паўнамоцтвы ўсіх прызнаны... Можа, справа ў нас, выбаршчыках!**

— Скажу так, — народ не цяля, бачыць круцяля. Людзі разбяруцца, хто змагаецца за іх інтарэсы, выконвае наказы, а хто — сыграў на народным даверы. Чакаць нам засталося нядоўга. Неўзабаве давядзецца разглядаць шэраг важных законапраектаў, пытанняў неадкладных і, адпаведна, займаць пэўную пазіцыю.

Трэба мець таксама на ўвазе тое, што масы імкліва палітызуюцца, уважліва сочаць за дзейнасцю парламента, востра рэагуюць. Хутка нам давядзецца і адказ трымаць — што зрабілі?

Усё, што адбываецца сёння ў грамадстве — пустыя магазіны, дэфіцыт, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, — ліхаманіць нашых людзей. Незадаволенасць нарастае з хуткасцю снежнай лавіны, якая можа змесці ўсё на сваім шляху. Гэта ўжо рэальнасць, якую трэба цвяроза ацэньваць. Новым лозунгам, суровым вокрыкам ці нават сілай становішча не выправіш. Толькі магутным эканамічным рычагом.

Я выступаю за хуткія перамены, за кардынальныя рэформы. Жыць так, як мы жывём сёння, — крыўдна, сорамна і, сказаў бы, злачынна. І гэта пры той каласальнай працавітасці беларускага народа, пры тых спрыяльных магчымасцях, якімі валодае наша рэспубліка, нягледзячы нават на чарнобыльскую трагедыю! Перакананы, што ў нас ёсць усе падставы дабівацца сапраўднага палітычнага суверэнітэту і яго надзейнага эканамічнага забеспячэння — у рамках цалкам абноўленай федэрацыі. Якой будзе яна, сёння вырашаецца ў парламентах Расіі, Украіны, Малдавіі. Нам таксама неабходна больш актыўна выступаць у якасці суб'екта такога абнаўлення. Нашы ж крокі ў гэтым напрамку пакуль што больш чым сціплыя.

**— Ці можна лічыць, што вашы погляды падзяляе большасць дэпутацкага корпусу?**

— Мяркую, што многія прыйшлі ў гэтую залу з адзіным жаданнем — зрушыць справу з мёртвай кропкі. Сустрэў шмат аднадумцаў, якія паслядоўна спавядаюць дэмакратычныя прынцыпы.

Чаго хачу я, чаго хочуць мае выбаршчыкі? Сапраўднага народаўладдзя, шырокай дэмакратыі, галоснасці, сацыяльнай справядлівасці. Каб рэспубліка стала прававой, суверэннай, заняла «пачэсны пасад» у цывілізаваным свеце. Каб было надзейна забяспечана жыццё нашых дзяцей, унукаў, калі хочаце, і праўнукаў.

Ці ж на такой платформе магчыма не кансалідавацца?

**— І апошняе. Наколькі ведаю, вы з'яўляецеся чытачом «ЛіМа». З мінулага нумара наша газета выходзіць з новым дэвізам — Купалавым запаветам «Людзьмі звацца!» Ваша меркаванне з гэтай нагоды!**

— Так, «ЛіМ» чытаю пастаянна, разам з мноствам іншых выданняў. Найбольш падабаюцца публікацыі, у якіх ідзе палеміка, выкладаюцца розныя погляды, аднаўляецца гістарычная памяць, сцвярджаюцца дэмакратычныя ідэалы... У гэтай сувязі лічу, што новы лімаўскі дэвіз цалкам адпавядае патрабаванням жыцця, духу часу.

**— Дзякуй за гутарку, поспехаў вам.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# «Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча...»

(Пачатак на стар. 1).

«Волат». У кампазіцыю ўвайшлі вершы Ф. Багушэвіча, урыўкі з яго апавяданняў, вытрымкі з лістоў да блізкіх і знаёмых. Кампазіцыя дазволіла прысутным перанесціся ў думках на дзесяткі гадоў назад, адчуць подых атмасферы, у якой тварыў адзін з найвялікшых нашых паэтаў, вярнуцца ў гады, калі новая хваля нацыянальнага адраджэння абуджала народ, клікала беларусаў «людзьмі звацца».

А потым пачалася другая частка свята — літаратурная. Адкрыў яе першы сакратар Смаргонскага райкома партыі І. Вельнашынскі. Без гучных слоў, без паперкі, шчыра, пабеларуску сказаў, хто такі Ф. Багушэвіч у роднай літаратуры і гісторыі Беларусі, а яшчэ і пра тое, кім з'яўляецца Мацей Бурачок для смаргонцаў, землякоў і наступнікаў песняра.

Цёплае, хвалюючае слова пра пачынальніка новай беларускай літаратуры сказаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак.

Так свята і доўжылася — шчыра, нязмушана. Выступаўшыя прызнаваліся ў любві не толькі да Ф. Багушэвіча, а і народа, выказнікам якога быў паэт. Гэта асабліва пранікнёна прагучала ў выступленні Я. Сіпакова:

Зразумець, што ты — народ,
І ад радасці ўзвінуцца,
На любы яго зварот,
Як на імя адгукнуцца.

Гаварылася на свяце пра неабходнасць захавання роднай мовы, памятаць Багушэвічаў запавет: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!», падкрэслівалася, што сёння мы перажываем момант, які дае беларусам ці не апошні шанц выжыць, зберагчыся як народ; чыталіся вершы, прысвечаныя аўтару «Дудкі беларускай».

Выступілі на свяце П. Макаль, У. Някляеў, М. Арочка, В. Швед (Беласточчына), С. Законнікаў, У. Паўлаў, Ю. Свірка, А. Пісьмянкоў, У. Марук, Г. Пашкоў, А. Емяльянаў, К. Камейша, Л. Левановіч, сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР А. Карпюк, малады паэт А. Чобат. А. Анішчык (Вільнюс), А. Жамойцін.

У свяце прыняла ўдзел дэлегацыя ленінградскіх пісьменнікаў. Галоўны рэдактар ленінградскага аддзялення выдавецтва «Советский писатель» Ю. Пампееў прызнаўся, што тут, на Смаргоншчыне, ён яшчэ раз пераканаўся, наколькі правільнае вызначэнне: цудоўная зямля — зямля вялікіх паэтаў. І. Сабіла і А. Левітан пазнаёмілі прысутных са сваімі перакладамі аднаго з вядомых твораў Ф. Багушэвіча, у якім ёсць такія радкі:

Жыццё — вандроўка на чоўне па моры,
Смерць — гэта прыстань пасля працы рупнай.
Многім даецца раскоша без гора.
Вось яны й лічаць, што ўсё ім даступна.

Працягам спаткання з зямлёй Ф. Багушэвіча стаў вялікі святочны канцэрт, у якім прынялі ўдзел паэт-бард Сяржук Сокалаў-Воюш, Дзяржаўны народны хор Беларускай ССР, ансамбль народнай музыкі, песні і танца «Свята», самадзейныя калектывы.

У гэты ж дзень першых наведвальнікаў прыняў пасля рэстаўрацыі дом-музей Ф. Багушэвіча. Права разрэзаць традыцыйную стужку атрымаў дзядзька Міхал — Міхаіл Сымонавіч Ляпеха, шматгадовы зберагальнік Багушэвічавай сядзібы. Пачаў ён рупівца аб паэтавай хаце яшчэ ў 1951 годзе, калі ў былым доме Ф. Багушэвіча адчынілася бібліятэка. Цяпер дзядзьку Міхалу пад дзевяноста, але па-ранейшаму ён без клопатаў не можа. А сёння дбаюць аб сядзібе паэта дырэктар музея А. Жамойцін і яго жонка Тарэза.

Першую экскурсію ў музеі правяла аўтар навуковай канцэпцыі рэстаўрацыі Багушэвічавай сядзібы Н. Цвірка. Адноўлена гасцёўня, кабінет, тры пакоі адведзены пад экспазіцыю. У афармленні дапамаглі Ашмянскі краязнаўчы музей, Дзяржаўны музей БССР, іншыя арганізацыі. Пісьменнікі падарылі музею свае кнігі, аўтографы твораў, прысвечаных Ф. Багушэвічу.

...Кожны, каму даводзіцца пабываць у Кушлянах, не абміне каменя, на якім выбіты словы: «Памяці Мацея Бурачка». Знаходзіцца гэты валун непадалёк ад паэтавай сядзібы. Да яго вядзе маляўнічая каштанавая алея. Ёсць у ёй і дрэвы, пасаджаныя ў свой час самім гаспадаром. Цяпер ля валуна дружна цягнуцца да сонца дубкі — іх шэсцьдзесят, столькі, колькі пражыў паэт. Дубкі ў 1983 годзе пасадзілі землякі Ф. Багушэвіча. Пісьменнікі, удзельнікі свята, усклалі да каменя кветкі.

Пабывалі літаратары і ў Жупранах, наведалі магілу Ф. Багушэвіча. Кветкі былі ўскладзены да мемарыяльнай дошкі памяці Ф. Багушэвіча, якая знаходзіцца ў Жупранскім касцёле, і да бюста песняра, устаноўленага ў цэнтры гарадскога пасёлка.

Свята, прысвечанае 150-годдзю з дня нараджэння Ф. Багушэвіча, паяднала ўсіх, хто ў гэты дзень наведаўся ў яго родныя мясціны. Інакш і не магло быць. Бо, як сказаў Адам Мальдзіс, «мы ўсе выйшлі з Багушэвіча, ён быў адзін з першых, хто думаў аб народзе».

Уладзімір КРУК (фота),
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».

□

Свіраны... Тут у незаможнай шляхецкай сям'і 9 сакавіка 1840 года нарадзіўся будучы паэт, тут ён зрабіў першыя крокі, адсюль пабеглі ў вялікі свет яго шляхі-дарогі.

Ніхто з мясцовых жыхароў нават старэйшага веку не ведаў аб тым, што на гэтай зямлі нарадзіўся вялікі паэт, што ў в. Рукойны, побач са Свіранамі, яго хрысцілі ў касцёле, які захаваўся да нашых дзён.

Час не зберог былога фальварку Багушэвічаў, і толькі старасвецкія ліпы на сядзібе памятаюць першыя крокі паэта.

Супрацоўнікі музея гісторыі беларускай літаратуры вырашылі наладзіць сумесна з мясцовымі ўладамі свята паэзіі, прысвечанае 150-гадоваму юбілею Францішка Багушэвіча. Вялікую дапамогу ў арганізацыі свята аказалі старэйшына Рукойненскай апілінкі (сельсавета) Л. Сапкевіч і загадчык ад-

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзванні*

**Уладзімір МАЛІШЭЎСКІ**

# ШЛЯХ ДА «СВЕТЛАГА БУДУЧАГА»

**Якім ён будзе на гэты раз! Каму запальваць ліхтары на яго скрыжаваннях!**

У НАШЫМ СКЛАДАНЫМ, у многім неўладкаваным і бязладным жыцці мы прывыклі да ўсяго. Змірыліся з шэрасцю побыту, нізкай зарплатай (па ацэнцы раду эканамістаў савецкі рабочы атрымлівае на рукі ўсяго 15 працэнтаў ад заробленага), пастаянным дэфіцытам прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці, ростам цэн, пра які нас не заўсёды нават інфармуюць (з 1 студзеня гэтага года, напрыклад, у дзесяткі(!) разоў павялічылася аплата паслуг у натарыяльных канторах, але хто і дзе пра гэта паведамляў?). Маўчым, калі нас прыніжаюць на рабоце, абражаюць у магазіне, у нашым ненадакучлівым сэрвісе, у паліклініках, зневажаюць на вуліцы... І пералік гэтай пакорлівасці бясконцы, як дарога да камунізму.

Не дачакаліся абяцанага тыя, хто дзеля яго рабіў рэвалюцыю, усё менш застаецца тых, хто дзякуючы гэтай веры перамог у самай жорсткай сутычцы з фашызмам, ціха дажываюць свой век і тыя, хто затым аднаўляў разбуранае, узводзіў вялікія будоўлі веку ў гады «пераўтварэння і пакарэння».

Сёння некаторыя называюць гэтыя пакаленні ашуканымі і няшчаснымі. З апошнім цяжка згадзіцца. Так, большасць з іх пражылі жыццё ў беднасці і нястачы, хоць працавалі за дзесяцёх, часта ў найцяжэйшых умовах. Але былі людзі мэтанакіраваныя, працавітыя, без пачуцця зайздрасці, чаго залішне ў цяперашняга пакалення, словам, людзі з той, як іншы раз гаворым, старой загартоўкай. Яны аддавалі жыццё, «выконвалі і перавыконвалі» ў сваім шчырым, я б сказаў, прыгожым і маладзецкім парыве, сапраўды верачы, што ўсё гэта яны робяць дзеля «светлага будучага». Ну а з такой верай у душы адносіць людзей да няшчасных было б, на мой погляд, для іх зняважальна.

Майму бацьку за восемдзесят. Ён бачыў многае: як здзекаваліся з сумленнага працавітага мужыка захапіўшыя ўладу на вёсцы ўчарашнія гультаі і выпівохі, на яго вачах па начах забіралі суседзяў, аб'яўляючы іх ворагамі Савецкай улады, усякага наглядзеўся і нацярпеўся ён за чатыры гады акопнага жыцця ў Айчынную, а ў пасляваенныя гады яго самога ўжо даводзілі да суда, выключалі і аднаўлялі ў партыі за «перагібы» ў станаўленні калгаснага жыцця. Далёка не ў сацыяльным раі жыве ён і сёння. Аднак той светлы ідэал у ім моцна сядзіць і дагэтуль. І паспрабуйце яму сказаць, што яго вера—утопія, што пабудавалі яны грамадства антыгуманнае і антыдэмакратычнае. З запалам абараняе ён ад сённяшніх абвінавачванняў «правадыра ўсіх народаў». «Прынамсі, дысцыпліна, парадак былі. Усе працавалі, гультаёў, п'яніц менш было. А што цяпер? Анархію развялі, працаваць ніхто не хоча, балбочуць толькі, а на зямлі старых пакінулі...»

Па-жыцейску, пагадзіцеся, ён у многім кажа праўду. Таму штосьці даводзіць, папракаць, а тым больш абвінавачваць такіх людзей у нас няма права— ні маральнага, ні юрыдычнага. Кожнае пакаленне жыве згодна сваёй маралі, сваіх перакананняў і ідэалаў. У каго ўсё гэта больш чалавечнае—меркаваць гісторыі.

Так, сёння іншы час, іншае пакаленне. Яно на многае стала відушчым, на многія рэчы глядзіць іншымі вачамі і ўжо не хоча надрывацца дзеля і ў імя утопіі.

Ілюзорнымі былі многія нашы сацыяльныя перавагі, чым выхваляліся доўгія гады. Наш чалавек не абаронены ні ад якога самавольства. Яго можна выгнаць з работы, адправіць у псіхушку, пасадзіць у турму і ён, калі выйдзе адтуль у здаровым розуме, будзе гадамі біцца лбом у дзверы чыноўнікаў, але нічога не дакажа. Бо там, даведваемся мы сёння з жахам, нават у крэслах міністраў сядзелі «паханы» крымінальнага свету («ЛГ», № 4, 1990 г.).

Запала ў сэрца вось такая гісторыя. Больш дзесяці гадоў назад мая сям'я атрымала кватэру ў новым мікрараёне, размешчаным на месцы невялікай прыгараднай вёсачкі, шэраг хатак якой яшчэ з год суседнічалі побач з вышыннымі каробкамі. З гаспадаром адной давялося пазнаёміцца. Пацікавіўся, чаму так доўга не зносяць яго хаціну. Высветлілася, што яму на сям'ю з чатырох чалавек прапаноўваюць двухпакаёвую кватэру на другім канцы Мінска, ён з гэтым не згодны, патрабуе перанесці яго хату ў любую прылеглую вёску, паколькі ён з сям'ёй з'яўляюцца вясковымі жыхарамі і яны не хочуць быць гараджанамі. Згодны нават перавезці дом сваімі сіламі, але—выканком супраць.

І вось праз пару тыдняў станаўлюся сведкам такой сітуацыі. У двары дома майго знаёмага, а размешчаны ён быў побач з аўтобусным прыпынкам, стаіць трактар з прычэпам, нейкія мужыкі грузяць у яго рэчы, навокал, галосячы, кідаецца жанчына з двума маленькімі дзецьмі. Што ж здарылася? Блуканні ў выканком і іншыя органы ўлады настолькі знервавалі майго знаёмага, што дзесьці ці ў кагосьці ён не стрымаўся, вылаяўся. За гэта яго хуценька ўпяклі на пару гадоў у мясціны не такія далёкія. Ну а з сям'ёй зрабілі, як у старыя добрыя часіны, пра якія з сумам успамінаюць сёння некаторыя таварышы.

Друкуючы гэтыя радкі, я раптам падумаў: а якія, браце, ёсць правы ў цябе самога? Вось выкіне гэты матэрыял рэдактар у кошык і каму ты паскардзішся? Нікому. Увогуле, наш брат, журналіст, сёння адзін, бадай, з самых неабароненых законам членаў грамадства. Ён ніколі не ведае, колькі заплацяць за яго працу, яго заўсёды могуць звольніць па адным званку з вышэйстаячага ідэалагічнага органа як «маральна няўстойлівага», яму нават водпуск аплачваюць з разліку не больш як 220 рублёў, хоць усім астатнім нашым працаўнікам—з разліку сярэдняга заробку.

НЯРОЎНАСЦЬ ЛЮДЗЕЙ перад законам—сёння самая пільная і балючая несправядлівасць нашага грамадства. У краіне з'явілася вялізная праслойка людзей, асабліва сярод савецкага і партыйнага апарату, якая паставіла сябе вышэй закона, вышэй маралі. Нічога не вырабляючы, прадстаўнікі гэтага Эльдарада распараджаюцца ўсім. Для іх лепшыя прадукты, жывуць яны, як правіла, у лепшых раёнах і лепшых дамах, на работу і з работы, на дачу ездзяць на дзяржаўных чорных «Волгах», іх дзеці вучацца ў прэстыжных школах і ВНУ, ім забяспечана кар'ера на службе.

Я асабіста не адношу сябе да тых, хто, сустрэўшы лепш за сябе апранутага чалавека, гатовы хапаць яго за горла, бачачы ў гэтым сацыяльную несправядлівасць. Агульная роўнасць па прынцыпе «дрэнна аднаму—дрэнна ўсім», гэткая абшчынная мараль—глупства. Усе мы розныя і розныя ў нас магчымасці і патрэбнасці. Імкненне ж да ўраўнілаўкі, на маю думку, лёс лянівых, няздольных і зайздрослівых. Роўнасці няма нават у прыродзе—самым дасканалым стварэнні.

Дык што ж нам патрэбна? Чаму мы так абураемся, калі бачым, што ў суседа, скажам, дом на два паверхі, з чарапічным дахам, у гаражы «Волга», а ў нас гэтага няма?

Справядлівасць ладу любога грамадства—роўнасць яго членаў перад законам, роўныя магчымасці кожнага праявіць свой індывідуум. Гэтага ў нас няма, гэтым мы і абураемся. Вядома, не бывае правілаў без выключэнняў. Хто, скажыце, сёння супраць, што член урада, буйны гаспадарчы работнік мае нейкія прывілеі: кватэру большай плошчы, персанальны аўтамабіль, пуцёўку без чаргі, а ўлічваючы дэфіцыт прадуктаў, тавараў, то і магчымасць іх ільготнага набыцця? А вось тое, што гэтыя асобы ў выніку сваіх службовых магчымасцей распаўсюджваюць ільготы, якія ім належаць, на членаў сваіх сем'яў, сваякоў, сакратарак, вадзіцеляў і іншых прыбліжаных, тут грамадская думка справядліва кіпіць. Тым больш, што ў нас усё гэта зайшло нашмат далей. Сёння многія, у каго ёсць магчымасць, імкнуцца штосьці загрэбці. І дайшло ж да таго, што памяркоўнае заграбанне батона каўбасы з роднага мясакамбіната, жалязякі з завода, пачкі паперы з канторы—гэта ўжо не абурае грамадскую мараль. Гэта нармальная з'ява. Ненармальным іншыя лічаць, калі чалавек нічога не нясе, нічога не парушае. На такога ўжо касавурацца. Народны гнеў сёння выклікаюць толькі тыя, хто сцягнуў мільён, не менш. Што ж тычыцца хапання правоў, магчымасцей, нейкіх ільгот, прывілей—дык гэта ўвогуле кваліфікуецца як учынак, ды і то толькі тады, калі гэтыя факты атрымалі грамадскую агалоску.

Прывяду бяскрыўдны на на першы погляд прыклад. Многім прадпрыемствам дадзена сёння права самастойнага выхаду на замежны рынак. Справа патрэбная, ніхто не будзе спрачацца. Але ў што ж ператварылі гэтае права іншыя «дзелавыя» людзі!

Летась, напрыклад, кіраўнікі аб'яднання «Наваполацкнафтааргсінтэз» набылі за мяжой для сябе некалькі персанальных аўтамашын «Таёта», а начальнікі з Аршанскага льнокамбіната і Гомельскага папярова-лесахімічнага завода—«Мерсэдэсы» і «Форды». Рабочыя гэтых прадпрыемстваў, натуральна, абурыліся. Бо купляліся прэстыжныя легкавушкі за валюту, зробленую ўсім калектывам, прычым ад продажу той прадукцыі, якой так не стае на прылаўках нашых магазінаў. І як, вы думаеце, пакаралі гэтых «аўтааматараў»? «Відаць, —заявіў на сходзе рэспубліканскага актыву былы кіраўнік урада рэспублікі М. В. Кавалёў,—падобныя факты асабістай нясціпласці не павінны заставацца без увагі партыйных камітэтаў». Вось так. Нават не ўчынкі, а ўсяго толькі «факты асабістай нясціпласці». Хоць, калі глядзець у корань, як раіў незабыўны наш Казьма Пруткоў, то тут яўнае хапанне, назва якому—звычайная крымінальшчына, прыкрытая маскай службовага злоўжывання. Чаму такое бацькоўскае «ківанне пальчыкам»? Усё проста. Падобныя факты «асабістай нясціпласці»—сістэма сярод жыхароў Эльдарада. Калі б я пачаў пералічваць, да прыкладу, толькі тых, хто з рэспубліканскай наменклатуры пабыў за народныя грошыкі ў закардонных ваяжах, скажам, за апошнія пару гадоў, то, упэўнены, для некаторых чытачоў адкрыў бы невядомыя старонкі геаграфіі (пра адзін з падобных круізаў расказала ў канцы студзеня гэтага года газета «Звязда»).

Любое злачынства, парушэнне законнасці, злоўжыванне на службе—гэта ўсё, гавораць юрысты, вынік нейкіх прычын. У прыведзеным прыкладзе я іх бачу вось у чым. У нас, асабліва за апошнія дзесяцігоддзі, зацвердзіўся нейкі своеасаблівы стэрэатып начальніка— службовая «Волга», персанальны шафёр, цэлы комплекс усялякіх ільгот і прывілей. Чаму? Адкуль? Па якому гэта ўсё праву? І самае абуральнае, што падобнымі атрыбутамі акружылі сябе нават начальнікі ўбогіх кантор, існаванне якіх часам увогуле сумніцельнае. У свой час мне давялося працаваць на адным з невялікіх прадпрыемстваў. Персанальнага аўтамабіля ў нашага дырэктара не было, для службовых паездак ён выкарыстоўваў старэнькі «УАЗ», якім карысталіся і іншыя спецыялісты завода. Але вось прыйшоў да нас іншы дырэктар—з былых начальнікаў высокага рангу. Сваю дзейнасць пачаў ён з персанальнай «Волгі». Выменяў яе на прадукцыю завода (а выпускалі мы будаўнічыя вырабы) у адной з воінскіх часцей. Са службы механіка былі адразу ж выдзелены два слесары, якія толькі і займаліся машынай шэфа. І крый божа, калі яна была не на хаду. Пасля таго дырэктара на заводзе змянілася іх вялікае мноства, але «Волга» стала ўжо абавязковым атрыбутам кожнага. Вынік гэтых заганных з'яў—размыванне маральных асноў грамадства, з'яўленне вялікай колькасці ўсялякіх язваў у матэрыяльнай сферы, побыце людзей. Акружыўшы сябе дабротамі і прывілеямі, іншы начальнік ужо як барчук глядзіць і на сваіх падначаленых, з халадком ставіцца да службовых абавязкаў. Ён можа дазволіць сабе ў рабочы час выехаць з «патрэбнымі» людзьмі на ўлонне прыроды, папарыцца ў лазні, адпачыць дзень-два дома, спаслаўшыся на дрэннае самаадчуванне.

Мы часта абураемся страшэнным станам нашых гарадоў і вёсак, дрэннай работай транспарту, гандлю, устаноў быту. Крытыкуем начальства гэтых служб, але лепш не становіцца. І не стане. Да таго часу, пакуль той жа дырэктар аўтапарка, які абслугоўвае пэўныя гарадскія маршруты, будзе на работу і з работы ездзіць не на службовай «Волзе», а начальнікі, якія адказваюць за работу сталовых, магазінаў, не стануць такімі ж іх кліентамі, як і ўсе мы. Чакаць жа, што ў іх прачнецца сумленне, што адчуюць яны адказнасць за даручаную ім справу, у атмасферы той беспакаранасці, усёдаравальнасці, якую яны самі стварылі, нам давядзецца вельмі доўга. Пакуль, як кажуць, певень не дзеўбане іх у адно месца.

І што дзіўна. Гэтыя ж начальнікі сёння крычаць: нізы разбэсціліся, працаваць не хочуць, не паважаюць кіраўнікоў, п'янствуюць, крадуць, хуліганяць. Хочацца тут спытаць: а хто ў гэтым вінаваты? Непарадак, як мне здаецца, трэба выпраўляць, пачынаючы не са славутага стрэлачніка. Калі агідна пабудаваны, скажам, дом, хіба вінаваты муляр, цясляр, тынкоўшчык? Вінаваты прараб, праекціроўшчык, усе тыя, хто стаяць над простымі будаўнікамі. Рыба гніе з галавы — ісціна даўняя. Адкуль, скажыце, з'явіўся лозунг — «ім можна, а нам што — нельга?»

Становіцца смешна, калі павальную ў краіне расхлябанасць і разбэшчанасць іншыя тлумачаць нашымі нейкімі традыцыямі: маўляў, на Русі заўсёды было разгільдзяйства, п'янства, крадзяжы. Скажам, цягнулі таму, што заўсёды не хапала, а сёння цягнем па інерцыі. Не. Віной усяму той лозунг, які нарадзіўся ў выніку самавольства апарату, яго бессаромнай усёдазволенасці, крывадушнасці, беспакаранасці, а апошнім часам і карумпіраванасці.

У канцы мінулага года прэзідыум Савета Міністраў рэспублікі разглядаў пытанне аб рабоце Мінскага аблвыканкома па паляпшэнні забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання. Адзначалася, што кіраўнікі гэтага органа з-за нізкай патрабавальнасці да кадраў, зніжэння выканаўчай дысцыпліны не забяспечылі выканання дзяржаўнага плана продажу цэлага шэрагу прадуктаў дзяржаве. Па гэтай прычыне гораду Мінску, напрыклад, недапастаўлена значная колькасць мясных і малочных прадуктаў. Бедны асартымент і нізкая якасць плодаагароднінай прадукцыі. Сарваны план вырошчвання агародніны і за чатыры мінулыя гады пяцігодкі, не выкананы заданні па ўводу ў строй аб'ектаў перапрацоўчых галін, вялікія страты ў працэсе нарыхтоўкі і захоўвання агародніны і бульбы. Словам, поўны завал. Прачытаўшы падобнае, чытач чакае сур'ёзных вывадаў з усяго гэтага, у першую чаргу — пакарання вінаватых. Аднак рашэнне ўрад прымае тыповае для адміністрацыйнай сістэмы: распрацаваць, ажыццявіць, прыняць меры, узмацніць кантроль, заслухаць і г. д.

З поўнай упэўненасцю можна сцвярджаць, што ў такім жа духу, з такімі ж вывадамі прайшлі затым з гэтым парадкам дня і нарады ў самім аблвыканкоме, ва ўсіх яго ніжэйстаячых падраздзяленнях. Паколькі сітуацыя, асабліва на паліцах з агароднінай, у лепшы бок не змянілася. Больш таго, пасля «прынятых мер» на базах Мінскага аграпрома, гэтага надуманага гарадскога «міністэрства», змаглі ў цяперашнюю безмарозную зіму замарозіць тысячы тон капусты, морквы, не менш мінулагодняга згніло там бульбы, іншай прадукцыі. Аднак і гэтыя факты прызнаны як «хібы ў рабоце».

Нядаўна Бюро ЦК Кампартыі Беларусі разглядала пытанне падбору і выхавання кадраў у Навагрудскім гаркоме партыі. Адзначалася, што перабудова кадравай работы ў партарганізацыі ажыццяўляецца марудна. Падбор кіраўнікоў, іх назначэнне і зняцце з пасады вырашаецца сярод вузкага кола асоб. «Маюць месца» факты лібералізму, выпадкі перамяшчэння работнікаў, што скампраметавалі сябе, з адной кіруючай пасады на другую. Не даецца належная ацэнка фактам бюракратычных, чэрствых і няўважлівых адносін да людзей, адсутнічае патра-

(Працяг на стар. 12).

сельскіх гаспадарак, у недаацэнцы рускай культуры, у прапагандзе антысавецкіх, антыпартыйных поглядаў, распаўсюджванні нацыянал-дэмакратычных ідэй бяскласавасці, самабытнасці беларускай нацыі.

Цікавы момант: калі нарыс «Падарожжа на новую зямлю» друкаваўся ў газеце «Савецкая Беларусь» на працягу кастрычніка-лістапада 1928 года, афіцыйная крытыка не бачыла ў ім ідэйных заган. Яна іх раптам угледзела ў 1929 годзе: сталінская авантурная ўстаноўка на фарсіраваную калектывізацыю прымусіла афіцыйныя колы рашуча змяніць арыенціры. Для палітыканаў, якія рашуча адмяжоўваліся ад ленінскага шляху развіцця сельскай гаспадаркі, ад доўгага, пакутлівага шляху фарміравання класа цывілізаваных кааператараў, творы М. Зарэцкага, у якіх праўдзіва малявалася тагачасная рэчаіснасць, імкненне працоўнага селяніна да сваёй зямлі, і сапраўды ўяўлялі вялікую палітычную небяспеку, а іх аўтар станавіўся і «лазутчыкам класавага ворага», і «ворагам у доме». На знішчэнне вось такіх «ворагаў» і была скіравана ўся моц тагачасных рэпрэсіўных органаў, прапагандысцкага апарату і друку.

Пачыналася смяртэльная барацьба праўды са злом, ісціны з ілжывымі лозунгамі, сумленнасці з крывадушшам і прыстасавальніцтвам. Фізічную перамогу ў гэтым духоўным супрацьстаянні атрымалі, вядома ж, сілы зла і прымусу. Але перамога маральная засталася на баку тых, хто бараніў ідэалы чалавечнасці, гуманізму, хто ўнутраным празарлівым поглядам прадбачыў і прадчуваў трагічныя вынікі часоў сталінскага беззаконня, крызіс палітычнай улады, развал эканомікі і разбурэнне сельскай гаспадаркі. У ліку тагачасных правідцаў, якія не збіраліся здаваць свае пазіцыі без бою, знаходзіўся і М. Зарэцкі.

Сярод шматлікіх артыкулаў, скіраваных на выкрыццё «нацдэмаўскай» ідэалогіі М. Зарэцкага як аўтара «Падарожжа...» і «Крывічоў», сваёй антыгуманнасцю і бесчалавечнасцю вылучаецца ўжо згаданы артыкул «Вораг у доме» С. Будзінскага (1894—1937), вядомага дзеяча польскага рэвалюцыйнага руху, публіцыста, члена Польскага бюро ЦК ВКП(б), рэдактара «Звязды» і члена рэдкалегіі часопіса «Бальшавік Беларусі». Вось якога калібру палітычная фігура была накіравана на беларускі «літаратурны фронт» для барацьбы з мясцовымі «нацыяналістамі»! Паглядзіце, як пагрозліва — і разам з тым як бяздоказна, галаслоўна — гучалі абвінавачванні ў С. Будзінскага: «Трэба гаварыць аб антыпартыйным і антысавецкім характары творчасці М. Зарэцкага і аб несумяшчальнасці поглядаў, якія пашыраюцца на старонках яго раманаў — асабліва ў «Крывічах», з прыналежнасці Зарэцкага да бальшавіцкай партыі». Або: «гэты чалавек з партбілетам у кішэні скажаў лінію партыі і, прыкрываючыся годнасцю члена партыі, прапаведваў погляды, варожыя рэвалюцыі і савецкай краіне. Толькі дзякуючы партбілету яго творы маглі набыць сілу атруты, якая разлагае нашу ўласную рэвалюцыйную моладзь». І яшчэ: «Тое, што надрукавана і што аўтар падрыхтаваў да друку, заключае ў сабе бессаромную ідэалізацыю нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-фашызму. Мы маем паклёп на камуністычную партыю, якая ў адрозненне ад «адмоўных» герояў Зарэцкага, апісаных з любоўю і пачуццём найвялікшай ідэёвай блізкасці да іх, — атрымала збіральнае імя «хамаў» — Хамелевічаў».

Вось у якой змрочнай атмасферы бессаромнага паклёпу і шальмавання вымушаны быў аўтар «Крывічоў» жыць і працаваць на пачатку 30-х гадоў. Афіцыёз настойліва падштурхоўваў М. Зарэцкага да таго, каб ён выракся свайго рамана, каб абвясціў аб адказе ад ранейшых перакананняў. Унутраны пафас выступленняў С. Будзінскага, Я. Сякерскай, П. Галавача і А. Звонака, Л. Бэндэ, А. Канакоціна і іншых сведчыў аб тым, што ад публічнага пакаяння М. Зарэцкага залежаў яго далейшы лёс як пісьменніка. Але на такі крок М. Зарэцкі — да яго гонару — не пайшоў ні ў 1929-м, ні ў 1930 годзе. І толькі ў 1931 годзе ў другім нумары часопіса «Полымя» з'явіўся ўрывак з рамана «Смерць Андрэя Беразоўскага» пад назвай «Рубеж», у якім пісьменнік зрабіў спробу як бы апраўдацца, пакаяцца ў неіснуючых грахах. Тут ён паабяцаў стварыць «новы раман са старымі героямі» і «развеяць туман рамантычнай ідэалізацыі, у які атулены былі персанажы «Крывічоў», і паказаць іх у іхняй праўдзівай сутнасці».

На пэўныя ўступкі, якія служба ідэалагічнага кантролю дабівалася ад М. Зарэцкага як ад «лазутчыка класавага ворага» і «ідэолага нацыянал-дэмакратызму», ён вымушаны быў пайсці. Пра гэта сведчаць асобныя фрагменты ўрыўка «Рубеж», дзе героі «Крывічоў» — Лявон Камяга і Пражэня — прызнаюць свае ранейшыя памылкі, становяцца выразнікамі артадаксальных поглядаў. І тым не менш «нястрымныя рупліўцы», якія справу выкрыцця «нацдэмаўшчыны» зрабілі сваёй прафесіяй, жаданай мэты не дасягнулі: «Рубеж» не стаў «Антыкрывічамі», на што яны так спадзяваліся. Сапраўднага адрачэння ад ранейшых ідэйных перакананняў не адбылося. М. Зарэцкі даў няхай і таленавіта выкананую, але ўсё ж адпіску! А што «Рубеж» быў вымушанай публічнай адпіскай, відно на кожным кроку: прамовы герояў аб сваім перавыхаванні гучаць дэкларацыйна, бо ніякіх падстаў для светапогляднай іх эвалюцыі не было. І, нарэшце, найболей істотнае: «урывак з рамана» так і застаўся «ўрыўкам», бо абяцанага «новага рамана са старымі героямі» ў друку не з'явілася. І гэты факт мы таксама павінны ацаніць па вялікім рахунку як пераканальны доказ нескаронасці таленту Міхася Зарэцкага. У самых неспрыяльных абставінах, ва ўмовах татальнай дыскрэдытацыі правоў чалавека, ігнаравання дэмакратычных прынцыпаў і гуманістычных ідэалаў ён мужна бараніў гонар беларускай літаратуры і высокую годнасць пісьменніка. І гэтым заслужыў нашу любоў і павагу.

А пошукі твораў, якія лічацца страчанымі, павінны працягвацца, каб Кніга, якую ўсё сваё кароткае жыццё пісаў Міхась Зарэцкі, нават з абпаленымі старонкамі, стала неад'емным спадарожнікам духоўных пошукаў кожнага сумленнага беларуса, кожнага чалавека, які нясе ў сваім сэрцы пачуцці горычы ад невымерных страт і пакут, што давялося перажыць беларускаму народу.

ЗБОРНІК вершаў, апавяданняў, эсэ складзены з твораў тых маладых літаратараў, якія адразу ж з юнацкай задзірыстасцю заявілі пра сябе як пра прынцыпова новую плынь у беларускай літаратуры. Нярэдка ў сваіх публіцыстычных выступленнях яны рашуча чаплялі сваіх папярэднікаў у прыгожым пісьменстве, прымушаючы тых калі-нікалі даваць «адлуп», як сказаў бы дзед Шчукар. Так бы мовіць, вечны канфлікт бацькоў і дзяцей. Ну, скажам, калі «бацькі» мудрыя, то яны разумеюць, што «дзеці» ва ўсе часы адмаўляюць іх. Праўда, бывае, што і ад маладога павявае старызнай, але ў «дзяцей» усё ж ёсць яшчэ перспектыва паразумнець. Дык паспрабуем разабрацца, што стаіць за іхнімі прэтэнзіямі.

# Бацькі ці дзеці?..

Трэба адзначыць, што ўкладальнік трапна падабраў чатырохрадкоўе, што адкрывае зборнік:

**Ноч. Павуцінне сноў.**  
**Дзень. Павуцінне спраў.**  
**Скажаш, нібыта ўкраў**  
**Некалькі нечых слоў...**

Можна было б згадаць вядомае цютчаўскае «мысль изреченная есть ложь», калі б не іронія, што, на мой погляд, гучыць у гэтых радках Сержука Сыса і задае ў нейкай меры танальнасць усяму зборніку.

Перагорнем старонку і прачытаем імя, якое стала ўжо даволі вядомым,—Адам Глобус. Ён застаўся верным сваёй гарадской тэме — не без мараў уцячы ў зімовы лес. Яго можна зразумець — і проста па-чалавечы, уважаючы на наша вірлівае жыццё, і таму, што працуе ён, напэўна, даволі напружана. Ва ўсялякім выпадку, адчуваецца паглыбленне сэнсу ягоных вершаў, калі параўноўваць з тым жа «Паркам».

Паколькі гаворка зайшла пра А. Глобуса, то трэба яе заводзіць і пра Анатоля Сыса. Сяргей Дубавец вызначыў і іхнюю ўзаемадапаўняльнасць, і іхнюю процілегласць даволі дакладна (другі нумар «Крыніцы», крытычны агляд «Хто там?»). Асабіста я схільны дараваць паэту прароцкія прэтэнзіі. На тое ён і паэт. Дый хто ведае, наколькі абвостраныя пачуцці стаяць за гэтым?.. Верш «Наступніку Уладзіміра Караткевіча»—адзін з лепшых сярод тых, з якімі чытач меў магчымасць пазнаёміцца па паэтычных зборніках «Агмень» ды «Пан лес». Аднак тое, што А. Сысу не хапае культуры працы і ўпартай цярплівасці пошуку А. Глобуса, С. Дубавец заўважае, на маю думку, слушна. У рэшце рэшт, Радзіму можа самаахвярна любіць і не паэт. Як ні прызнавайся ў сваёй любові, а можаш не заўважыць, калі тэма пачне гучаць банальна. Тут за прыклад можна ўзяць рэдкі не толькі ў беларускай літаратуры духоўны, філасофска-паэтычны рост Алеся Разанава. Які б цяжкі ні быў кожны ягоны наступны крок, але ён моцна адчуваецца ад зборніка да зборніка, нават ад верша да верша. Усё гэта я выказаў таму, што надта ж не хацелася б, каб цудоўны дар Анатоля Сыса аказаўся разменены на дробязі.

Раз ужо мы закранулі крытыка Дубаўца, то самы час перайсці да Дубаўца-пісьменніка. Парадаксалізму ды іроніі яму не пазычаць. Ну, чаго вартыя хаця б разважанні пра творчае натхненне ў ложку з жанчынай і пра галаву, што забіта жанчынамі, калі трэба было б пісаць, у апавяданні «Немач». Пазнаёміўшыся з публіцыстыкай ці інтэрв'ю С. Дубаўца, можна падумаць, што гэтай іроніі, якая перарастае ў крытычнасць, у яго бывае звыш меры. Тым не менш, меру мы тут шукаць не будзем, а ў дачыненні да апавядання, што змешчана ў «Тутэйшых», я б адзначыў трапны канчатак.

Парушаючы паслядоўнасць, у якой размешчаны творы, а цяпер і «лагічную» нітачку, звернемся да перакладаў Алеся Жлуткі ды Ігара Бабкова. Яны стаяць на шляху запаўнення таго прабела, які не лепшым чынам адбіваецца на беларускай літаратуры. Гаворка ідзе пра апрацоўку сусветнай класікі. На вялікі жаль, дагэтуль мы не маем перакладаў твораў, да якіх звяртаецца ўвесь цывілізаваны свет. Я маю на ўвазе хоць бы індыйскія «Махабхарату» ды «Рамаяну», вавілонскі эпас, Гамера (за выключэннем невялічкага ўрыўка, што захаваўся ад Б. Тарашкевіча). Ды й не толькі названае. Увогуле ж дзеля таго, каб выкрышталізаваць ды развіваць уласна нацыянальную літаратуру, трэба ўцягваць яе ў дыялог з літаратурамі іншымі. У гэтым сэнсе названыя пераклады заслугоўваюць высокай адзнакі. Прычым у перакладах са старажытнагрэчаскай ды лацінскай А. Жлуткі я адзначыў бы іх высокую кваліфікацыю, у перакладах І. Бабкова—уменне перадаць унутраны настрой старажытнакітайскага верша. Настрой, здаецца, адбіўся і на ўласнай элегіі І. Бабкова:

**Распусны, халодны,**  
**пранізлівы бляск ліхтара!**  
**Адчай даўгавейны, самота,**  
**рыпенне пяра...**

Сусвет сусветам, але ж трэба, каб было і ўласнае літаратурнае аблічча. Яно ў зборніку вымалявалася даволі выразна. А найлепшым чынам гэтае аблічча вызначае апавяданне Уладзіміра Сцяпана «На вуліцы». Тэма, якая балюча адбіваецца на ўсіх баках нашага жыцця...

Філосафы нямала разважалі на той конт, што адрознівае чалавека ад жывёлы. Дэкарт лічыў, што мысленне. Вядомы пісьменнік А. Платонаў у гэткай сувязі адзначаў, што калі Дэкарту і забаранілі дзейнічаць, то ўжо ж ніхто не мог забараніць яму думаць. Атрымліваем новую пастаноўку праблемы, якая ставілася ды плённа распрацоўвалася ў межах нямецкай класічнай філасофіі ад Канта да Гегеля, — праблемы свабоды.

У Гегеля на гэты конт ёсць вельмі глыбокія разважанні пра рабства. Ні раб, ні рабаўладальнік не існуюць адзін без аднаго. Уладзімір Сцяпан своеасабліва зірнуў на гэтую сітуацыю. Сабака стварае свайго жорсткага гаспадара, які мала чым адрозніваецца ад жывёлы. Ці не падобна тое на нешта добра знаёмае ў нашым жыцці? Хіба што ў сваім імкненні апраўдаць сябе мы часта называем тую з'яву аб'ектыўнымі абставінамі...

Завяршаючы размову пра творчасць У. Сцяпана, я яшчэ адзначыў бы меладычнасць аднаго з ягоных вершаў «Гатычная вежа». Скрозь радкі верша чуваць сам гістарычны звон:

**І падаюць долу кавалкі іржы.**  
**Крывёю гараць над зямлёй**  
**вітражы.**  
**І чуецца ў звоне магутны**  
**харал.**  
**Магутны харал.**  
**І плавіцца ружы чырвоны**  
**карал..**

**Такім чынам, мы вызначылі дзве рысы, што з'яўляюцца характэрнымі для «Тутэйшых». Адна з іх — імкненне да незалежнасці, абвостранае пачуццё свабоды — гэтай векавечнай філасофскай праблемы. Другая рыса непарыўна звязана з першай. Як можна было заўважыць па разгледжаных творах. Гэта гістарызм, прага да абнаўлення гістарычнай памяці, да яе адраджэння ў свядомасці беларусаў. Таму й не дзіўна, што сярод апавяданняў ды вершаў змешчаны гістарычны нарыс Генадзя Сагановіча «З паляўшай славы», фалькларазнаўчая замалёўка «Ярылавіца» Алеся Лозкі, археалагічны нарыс Эдварда Зайкоўскага. Яны арганічна ўплятаюцца ў кола прадстаўленых у зборніку твораў. Сюды ж варта дадаць разважанні пра адсутнасць у доме радзімы Вітаўта Мартыненкі («Спроба»), зварот А. Бяляцкага да забытай паэзіі Алеся Смаленца. Названых вышэй аўтараў, а таксама ўсіх астатніх відавочна аб'ядноўвае абуджаная нацыянальная самасвядомасць. Клопат пра будучыню сваёй Радзімы, яе культуры і, адпаведна, мовы. Гэта якраз тое, чаго нам сёння вельмі і вельмі не хапае. Прычым нават гістарычны нарыс Г. Сагановіча адрознівае жывая літаратурная мова, што для такога роду пісьменства не частая з'ява.**

Калі паспрабаваць разгледзець своеасаблівасць «Тутэйшых» па-за вылучанымі рысамі агульнага характару, то і кожны з іх паасобку не падобны на другога. Наўрад ці зблытаеш уласцівую Сержуку Сокалаву-Воюшу экспрэсію з меладычна-задумлівай танальнасцю вершаў Таццяны Сапач.

Я закрануў адзін з адметных прыкладаў своеасаблівасці паэтычнага стылю. Аднак пры некаторым падабенстве вершаў ці апавяданняў (прынамсі, згадваецца разанаўскі стыль) кожны з аўтараў не імкнецца схаваць сваё ўласнае «я». Гэта можна сказаць і пра вершы Хведара Кашкурэвіча, Ларысы Раманавай дый іншых. Хацелася б спадзявацца, што «адбудзецца яшчэ кветка» Сержука Вераціла.

**У кароткай рэцэнзіі немагчыма падрабязна прааналізаваць усе змешчаныя ў зборніку творы, а таму ў першую чаргу я імкнуўся вылучыць тое, што з'яўляецца характэрным для «Тутэйшых» у станоўчым сэнсе. Тым не менш, цяжка абысціся і без песімістычнай ноты. Крытык Сяргей Кавалёў далёка небеспадстаўна кранае праблему крызісу беларускамоўнай літаратуры. Трапнай з'яўляецца наступная ягоная заўвага: «Прычын гэткага крызіснага становішча літаратуры шмат, але галоўнай з'яўляецца ўсё ж не прычына ўнутрылітаратурная, а занядбанае становішча беларускай мовы ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці рэспублікі». Пра гэта пісалася шмат. І калі-нікалі чуеш аргументацыю: пішыце творы, якія б адпавядалі лепшым узорам сусветнай літаратуры! Дык такія творы, якія ведаюць у многіх краінах свету, ужо й зараз ёсць. Але трэба, каб быў і чытач. А дзе яго ўзяць ва ўмовах пануючага нацыянальнага нігілізму?..**

Зборнік творчасці «Тутэйшых» сведчыць пра тое, што ўнутраныя магчымасці літаратуры не вычарпаны. Узнікла новая плынь, якая ў пэўным сэнсе можа быць асэнсавана ў сувязі з авангардам. Для яе з'яўляецца характэрным імкненне да роздуму, што нярэдка адбіваецца нават на назве твора (апавяданне Барыса Пятровіча мае назву «Людзі доўга не жывуць»). Тым не менш, не надта рашучая заяўка, пра якую мы вялі гаворку спачатку, мае пад сабой трывалы грунт. Справа не толькі ў тым, што некаторыя творы зборніка даводзілася чытаць раней (няўжо ў такой колькасці аўтараў не хапае сіл пісаць новае?), але і ў празмернай замкнёнасці на сабе.

Сяргей КУПЦОЎ.  
г. Гомель.

«Тутэйшыя». Творчасць сяброў таварыства. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1989.

**Васіль ХОМЧАНКА**



# МАТРОС

*Быль*

У НАШУ брыгаду грузчыкаў ён трапіў са штрафной калоны, дзе служыў нарадчыкам. Казалі, нарадчык ён быў люты, хадзіў з дубінай па бараках і выганяў на развод дахадзяг. Той дубінай нават забіў аднаго.

Гэтаму я верыў: высокі, пад два метры здаравіла, з доўгімі, як у арангутанга, рукамі, ён мог і без дубіны забіць чалавека. Прозвішча ў яго было Матросаў, але ўсе звалі Матросам. Ён і сапраўды некалі служыў матросам на балтыйскім ваенным судне. На шырокіх кісцях у яго з таго часу засталіся наколкі — якар і караблік. І яшчэ ён насіў цяльняшку. Дзе Матрос яе дастаў, невядома: ці яму прыслалі з волі, ці садраў у якога зэка-навабранца.

Яго пабойваліся мы ўсе, у тым ліку і брыгадзір. А прычына баяцца яго была.

На другі ці трэці дзень работы ў нашай брыгадзе ён ледзь не адправіў на той свет зэка-шафёра. Мы загружалі машыну мяхамі з мукой для нейкай калоны. Шафёр паставіў грузавік коса да дзвярэй склада, і было нам не зусім зручна падаваць мяхі ў кузаў. Брыгадзір папрасіў шафёра паставіць машыну бліжэй і прамей. А той, улёгшыся на рагожы, устаць паленаваўся, сказаў, што і так можна грузіць.

І тут не сцярпеў Матрос.

— Гніда, гад, ляжыш? Падыму зараз. — Ён схапіў са штабеля цяжкую скрынку з бляшанкамі-кансервамі і шпурнуў яе на ляжачага шафёра.

Уратавала таго спрытнасць — паспеў адкаціцца ўбок. Шафёр адразу ж ускочыў у кабіну, паставіў грузавік прамей, а сам з кабіны больш не вылазіў.

І другі выпадак, які адбыўся ў першыя дні знаходжання Матроса ў брыгадзе, яшчэ больш насцярожыў нас — Матроса трэба баяцца. Той аб выніках сваіх нечаканых, можа, і для яго самога, учынкаў не думае і сілу сваіх удараў не разлічвае. Мы абедалі на базе, седзячы ўсёй брыгадай за двума доўгімі дашчанымі сталамі. Абед быў мясны, добры, усё ж такі мы працавалі на прадуктовай базе і сябе маглі не крыўдзіць. Матросу, з яго вялікім целам, адной порцыі, канечне, было мала, яму і давалі больш. Так і той раз кухар — наш жа брыгадны грузчык — паднёс Матросу вялікую алюмініевую міску густой рысавай крупені, з якой тырчаў масол. У місцы былі і яшчэ кавалкі мяса, але Матросу іх не было відаць. Матрос дастаў масол, падумаў, што гэта і ўся порцыя мяса, і пляснуў ім па твары кухара. Нічога не сказаў кухар, прынёс з кухні кавалак мяса без касцей.

Нічога не сказаў і брыгадзір. А ўсё ж адзін грузчык, сябра і зямляк кухара, не стрываў.

— Завошта ты яго ўдарыў? — спытаў ён.

Матрос ляніва павярнуў невялікую, вельмі непрапарцыянальную для свайго вялікага цела галаву на таго грузчыка, паглядзеў нейкі момант, як бы рашаючы, варта ўстаць, каб падысці ды ўдарыць, ці не, і схіліўся над міскай з крупеняй. Паленаваўся ўставаць.

Праз які тыдзень мы з расказаў самога Матроса даведаліся пра яго многае. Служыў ён на нейкім эсмінцы. А калі пачалася рэвалюцыя, то матросы-балтыйцы сталі ў Петраградзе яе ўдарнай сілай. Наш Матрос таксама разам са сваімі карабельнымі братушкамі ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях, заваёўваў для нас свабоду і шчаслівую будучыню.

Ён неяк дастаў з кішэні курткі загорнуты ў паперу выразаны з часопіса фотаздымак. На ім тры матросы на нейкім мосце ў Петраградзе. На іх — традыцыйныя кулямётныя стужкі, гранаты на поясе. Сярод тых трох матросаў быў і наш Матрос.

Як высветлілася, нейкі журналіст знайшоў у архівах гэты здымак і змясціў у часопісе. І якія ўзнёслыя каментарыі даў журналіст пад гэтым здымкам! «Вось зірніце на гэтых арлоў маракоў-балтыйцаў, — захлёбваўся той журналіст. — Гэта іх гераізм, адвага і бязлітасная нянавісць да ворагаў рэвалюцыі далі нам перамогу... Гэта яны, сумленныя рыцары рэвалюцыі, легендарныя барацьбіты, адстаялі заваёвы Кастрычніка і на франтах грамадзянскай вайны. Яны сталі потым і байцамі чэка...» І гэтак далей.

Матрос нам сам прачытаў той тэкст.

— Я тут пасяродку, — паказаў ён на здымак. — Гэта злева мой кораш Міцька, у адным кубрыку спалі. Трэці таксама з нашага эсмінца.

— А навошта ў цябе фінка на поясе? — спыталіся ў яго.

— Як навошта? Рэзаць.

— Каго?

— Буржуяў.

— І многа іх парэзаў?

— Хапала, — ухмыльнуўся Матрос. — Але засталіся і недарэзаныя. — Ён зноў тыцнуў пальцам у здымак. — Вось бачыце мост. На ім нейкі тып нас і зняў. Сказаў, для гісторыі. Дык на гэтым мосце ў той жа дзень, калі мы зняліся, адна штучка палучылася. Абрагочашся. Ну стаім мы на мосце, ахоўваем яго. Паддалі добра. Кораш Міцька і кажа: «Бабу хочацца. Давай якую-небудзь буржуйку на мосце распластаем». Ну ён ужо занадта захацеў, каб днём на вачах усяго Петраграда такое зрабіць. Калі б цёмна было, то можна. Але пазабавіцца хацелася. Рукі ў мяне зачасаліся. Нешта б такое адчыбучыць... Бачым, ідзе з партфелем, у акулярах, нейкі буржуй у шынялі. Падышоў, вецер расхінуў крысо шыняля, а падкладка чырвоная. Генерал, значыць. «Брацішкі, — узрадаваўся Міцька, — генерал недарэзаны». Мы за яго: стой, што нясеш у партфелі, можа, дынаміт, мост узарваць хочаш? Ён нешта сказаў нам не тое, крыўднае, мы за яго, раз-два ды ў рэчку з моста. Толькі булькнуў...

Матрос зарагатаў, запрашаючы і нас пасмяяцца, і вельмі здзівіўся, што нам было не смешна. Вылаяўся.

Ён і потым, калі расказваў і смяяўся, а смех яго не падтрымлівалі, злаваўся.

— Маць вашу, сяўкі, шоблы, вам нецікава, як я рэвалюцыю рабіў?

Расказаў пра тыя крывавыя гады я ад яго даволі наслухаўся і ў час работы на базе, і ў бараку, дзе я ляжаў паблізу ад яго нар. Не ведаю, можа, многае з таго, што ён баяў, было баландай, як называлі ў лагеры хлусню. Але ж, упэўнены, што было шмат і праўды ў яго расказах. Цяпер жа шмат чаго ўсплыло, адкрылася пра тыя гады новага і па-новаму мы сталі ацэньваць ранейшыя падзеі. Пра брацішак-матросаў, якіх столькі гадоў рамантызавалі паэты і гісторыкі, даведаліся шмат чаго і страшнага. Так, яны ўмелі люта распраўляцца з так званымі эксплуататарамі. З матросаў стваралiся карныя атрады для расправы над сялянамі, замучанымі харчразвёрсткамі. З матросаў папаўняліся «чрэзвычайкі», якія на практыцы ажыццяўлялі чырвоны тэрор.

Наш Матрос служыў адзін час і ў Петраградзе ў чэка, займаў пасаду старшыні раённага чэка. А чэкістам тады былі дадзены выключныя правы. Яны арыштоўвалі, самі вялі следства, самі выносілі пастанову аб расстрэле, самі і расстрэльвалі. Вось і ўявім нашага Матроса следчым і суддзёй.

Днявальным у бараку быў зэк, якога звалі меншавіком, бо ён і сапраўды да рэвалюцыі прымыкаў да Пляханава і ставіў яго вышэй за Леніна. Партрэцік свайго настаўніка і правадыра днявальны павесіў над сваімі нарамі на сцяне. Яму, гэтаму днявальнаму, было гадоў шэсцьдзесят. Аблысеў ён начыста, толькі каля шыі на патыліцы сівеў вузкі абадок валасоў. Гэта лысіна рабіла яго непрыгожым і нават страшнаватым, быццам чэрап голы, і таму днявальны пашыў сабе шапачку, накшталт яўрэйскай ярмолкі, і здымаў яе, калі клаўся спаць.

Я зваў гэтага меншавіка, канечне, па імю і па бацьку і любіў з ім пагаварыць, бо чалавек ён быў адукаваны, ведаў французскую і нямецкую мовы, шмат чытаў. А кнігі яму прыносіў начальнік аховы калоны, які вучыўся ў вячэрняй школе і кожны дзень звяртаўся да днявальнага за кансультацыяй па розных прадметах. У днявальнага браў сёе-тое чытаць і я, за што быў вельмі яму ўдзячны.

Матрос днявальнага чамусьці асабліва не залюбіў, як і днявальны Матроса. Пры кожным выпадку Матрос чапляўся да яго, напамінаў яму яго мінулую партыйную прыналежнасць.

— Эй, меншавіцкая душа, шкада, што ты мне ў тыя гады не трапіўся. І ўляпіў бы я ў тваю лысіну з маўзера.

І рагатаў.

Ён, можа, і пабіў бы днявальнага, ды баяўся начальніка аховы, з якім у меншавіка былі добрыя адносіны.

Нам, старажылам, слухаць расказы Матроса пра расстрэлы, арышты надакучыла. Ён нам ужо і не расказваў. Але вось прыбыло папаўненне з Бесарабіі, далучанай намі ў саракавым годзе. Матрос і знайшоў сярод іх слухачоў.

Быў якраз выхадны, на вуліцы ліў дождж, і я ляжаў на нарах, вымушаны слухаць Матросавы росказні бесарабам, што згурціліся вакол яго.

— Схапілі мы, чэкісты, аднаго буржуйчыка-студэнта, — расказваў Матрос. — А ў яго нявеста была, з благародных дзявіц. Вучылася ў благародным інстытуце. Прыйшла яна да нас прасіць, каб адпусцілі яе жаніха. Даказвала нам, што ён невінаваты. Раз прыйшла, другі. А скажу вам, была яна прыгожая краля. Вось мой памочнік, таксама марачок, і гаворыць ёй: «Вызвалім жаніха, калі ляжаш са мной у пасцель». Яна ў слёзы: як вы можаце такое мне прапанаваць, я ж не вулічная, а вы не манголы якія... Ну і яшчэ там пра гуманнасць, законнасць чырыкала. А мой памочнік ёй: «Ну, як хочаш, сёння ноччу твайго жанішка шлёпнем». Яна парумзала, парумзала, спытала: «І тады яго адпусціце?» — «Канечне, адпусцім». Дзяўчына згадзілася.

Матрос расказваў, лежачы на нарах, а дайшоўшы да гэтага месца, сеў, ляпнуў далонямі аб далонь, пацёр імі з гэтакай жывёльнай радасцю.

— Ой, і раскашоўваліся мы тады з ёю. Утрох, канвеерам. А памочніку майму яшчэ і пацехі захацелася. Ён прывёў таго студэнта-жаніха. «Глядзі, як твая нявеста рэвалюцыі служыць...»

Матрос зарагатаў, ляпнуў яшчэ раз у далоні, некалькі разоў паўтараў, успамінаючы тую сцэну:

---

# ВЕРШАКАЗЫ

**Алесь РАЗАНАЎ**



## Цвік

Занятак у цвіка цывільны, а постаць вайсковая: ён, як вінтовачны патрон, мае вострае, доўгае і пляскатае, але, у адрозненне ад патрона, ён цэласны, ён суцэльны, і часткі яго не дзеляцца між сабою: дзе адно, там усё.

Цвік цікаўны: усё яго тычыць, усюды ён утыкаецца, каб даўмецца, ці ёсць недзе нешта, чаго б ён не ведаў, ці няма.

І калі яго цюкае па плешцы малаток, калі вішчыць дошка, квічыць масніца альбо скавыча аполак, ён, «гучна» ўцякаючы ад малатковага націску, ціха дзякуе яму за паслугу.

Цвік ні на кога не мае злосці, нікога ні на кога не нацкоўвае, нікога не цвеліць, ён толькі выконвае сваю місію—місію цывілізатара: сцвярджае ў драўляным царстве, што ўжо адцвіло і не здольна цвісці нанова, прыйсце жалезнага веку.

Цвіка не цікавіць ні спарахнелае, ні гнілое, але і скамянелае, зацятае на сабе, не цікавіць таксама: тады ён спыняецца, тады ён скрыўляецца і просіцца ў абцугоў, каб яны яго выцягнулі назад.

У цвіку спалучаюцца функцыі ключа і замка: ён—ключ, але на адзін раз, замок — але назаўсёды, і ўсё, замкнёнае ім, трымаецца на ім, пакуль не скончыцца цыкл часу і пакуль драўлянае і жалезнае не скажуць адно аднаму: мы—квіты.

## Смага

Смага—«мага»: яна можа тое, чаго не могуць звычайныя станы, і там, дзе яны прызнаюць сваё паражэнне і згаджаюцца, што магіла магутнейшая за ўсіх і за ўсё, смага змагаецца і пасягае на перамогу.

У смагі няма ні масы, ні вагі, аднак яна прымушае «самазадаволеную» матэрыю хацець, мучыцца, намагацца, змяняцца і, перавыхоўваючы стыхіі, якія ў прыродзе варагуюць паміж сабой, прымушае агонь любіць ваду, а Магелана — тварыць немагчымае, і, як да магніта, цягнуцца да неадкрытых мацерыкоў.

Яна перайначвае многае ў адзінае, імгненнае — у працяглае, гаму — у магму, альфу — у амегу, пякельнае — у пекнае, смалу — у смарагды, а плоць— у дух.

Кіно

# Хто ўзарваў Круглянскі мост?

З ДРУКУ даведаўся, што дакументальная стужка беларускага кінарэжысёра А. Мароза атрымала Галоўны прыз кінафестывалю ў бельгійскім горадзе Юі. Не без гонару паведамлялася, што новая яго работа — мастацкі фільм «Круглянскі мост» паводле аповесці В. Быкава — будзе прадстаўлена тамтэйшым гледачам у якасці прэм'еры. Пасля такога анонса грэх было не паспяшацца ў сталічны кінатэатр.

Даўно вядома, што спачатку было Слова. Слова Васіля Быкава. Важкае і непарушнае. Беларускае... Зразумелае імкненне стваральнікаў стужкі экранізаваць гэтую аповесць пісьменніка (датаваную 1968 годам), стварыць на яе аснове такі кінатвор, які б сярод плыні кан'юнктурнага «чарнощця» змог бы нагадаць гледачу пра ідэал гуманізму — пра спачуванне да лёсу маленькага чалавека і зрабіць гэта без дэкларацый «любові да чалавецтва ўвогуле». На маю думку, тут адыграла сваю ролю і тое, што аповесць «Круглянскі мост» вельмі «зручная» для экранізацыі. Сапраўды, у творы «пракручваецца» цікавы літаратурны матыў «жоўтай цаглянай дарогі», які мы можам заўважыць у творах Стругацкіх, Караткевіча і іншых пісьменнікаў.



Творы з гэтым матывам вельмі прыцягальныя тым, што ў іх ёсць магчымасць адлюстраваць змены чалавечай асобы на шляху да мэты. Крочыць па такім шляху можна самым... парадаксальным чынам! Тым і цікавыя такія творы. Памятаеце, як у вядомай казцы «Чараўнік Смарагдавага горада»? Толькі ў творы В. Быкава гэтыя пераўтварэнні асобы адбываюцца на мяжы са смерцю, што вельмі прыцягальна для шукальнікаў сюжэтаў.

Вядома, што сцэнарый — аснова экранізацыі. У дадзеным выпадку зроблены ён з веданнем справы і надзвычай прафесійна М. Шэлехавым. Амаль увесь матэрыял аповесці, які знаходзіцца па-за дзеяннем (*успаміны партызан, іх расказы*) і які складае эмацыянальны фон твора В. Быкава, рэалізуецца ў дзеянні на экране, становіцца своеасаблівай рэтардацыяй. Гэтыя кінематаграфічныя прыёмы адсоўваюць развязку канфлікту, ствараюць эмацыянальнае напружанне, робяць сцэнарый кінематаграфічным у самым добрым сэнсе слова.

Але. напэўна, дзеля большае драматызацыі сцэнарыст уводзіць у фінальную сцэну яшчэ адну немалаважную кінаасобу — паліцая. Ён — бацька хлопчыка Міці, якому даручана даламагчы ўзарваць мост. У выніку такіх пераўтварэнняў перамясціліся акцэнты твора: Міця гіне, кідаючыся на дапамогу свайму паранenаму бацьку-паліцаю. Гэтакі «фініш» хоць і надае яшчэ больш трагізму вобразу Міці, *але ў значнай ступені* знімае адказнасць за яго Брытвіна. Адказ на пытанне: «Хто ўзарваў Круглянскі мост?» стваральнікі стужкі ставяць пад сумненне.

Асноўная трагічная лінія твора — узаемаадносіны хлапчукоў Сцёпкі і Міці. Зразумела, А. Мароз добра памятаў тыя ўзорныя стужкі, дзе праблема вайны і скалечанага дзяцінства паўстае ў выдатным мастацкім увасабленні. Нагадаю дзве з іх: «Ідзі і глядзі» Э. Клімава і «Сведка» В. Рыбарава... І вось «Круглянскі мост» А. Мароза. Рэжысёр вельмі ўдала сканцэнтраваў сваю ўвагу на гульні падлеткаў у выкананні А. Кукарэнкі і А. Маеўскага. Сцёпка ў фільме — натапыраны і няскладны, яму ўвесь час не шанцуе, але ў душы яго гарыць чысты і зыркі агонь. Міця зусім іншы: просты, працавіты і — даверлівы. І калі ў творы В. Быкава падлеткі апякуюцца адзін адным, дык стваральнікі фільма праграміруюць і ўтвараюць паміж імі канфлікт. Але менавіта з іх канфлікту вырастае кранальнае сваёй чысцінёй сяброўства, і гэта набліжае рэжысёрскую работу А. Мароза да вышэйзгаданых узораў. Падлеткі ў фільме — ахвяры вайны і яе пераможцы...

Упэўнены: шмат хто з чытачоў чакае крытычнага разбору кінадэбюту даволі вядомага аўтара і выканаўцы сваіх песень У. Бобрыкава, які ў фільме выканаў ролю Маслакова. Тут я губляюся: а раптам Бобрыкаў-кінаакцёр зробіцца для беларускага кіно тым, чым... Высоцкі для савецкага? Бо менавіта ягоны «іміджа» «здымае» Бобрыкаў у сцэнічным жыцці. Але ж эстраднасць далёка ад рэалізму ваеннага жыцця. Характар Маслакова гранічна суровы, мужны і чалавечны, а тут... У фільме, падалося, спявак блытае эстраду і кіно, *некрытычна пераносіць* свае сцэнічныя метады на экран. Таму замест мужнага партызана на экране мы бачым, даруйце, нейкага юродзівага. Напэўна, у працы кожнага акцёра ёсць нешта такое, што нельга выказаць словамі, што падпадае *пад значэнне слова «трансцэдэнтальнае»*. Яно без слоў, без натужнай эмацыянальнасці нараджаецца пякельнай працай рэжысёра. А ў даным выпадку яе не адчуваецца. Рэжысёр А. Мароз давярыўся папулярнасці спевака, яго эстраднаму вопыту, і кінатвор шмат згубіў праз гэта. Паспрабую праілюстраваць гэта на прыкладзе эпізода, дзе Маслакоў (Бобрыкаў) існуе ў кадры, але «выключаны» з яго дзеяння. Гэта сцэна смерці і пахавання Маслакова. У ёй акцёрамі мінімальнымі сродкамі (кадр перадсмяротнага позірку Маслакова, імкненне Брытвіна хутчэй пахаваць партызана, яловыя галінкі, якімі Сцёпка паспявае акрыць у магіле цела Маслакова) знойдзены дакладны эквівалент аповесці В. Быкава. Эпізод хоць і выклікае супярэчлівыя пачуцці, але зразумелы гледачу, бо за ўсім угадваецца ўнутраны сэнс, якім кіруецца той ці іншы герой кінааповесці.

Выклікае пытанне не толькі акцёрскі «падзел» стужкі, але і «падзел» моўны. Сапраўды, чым растлумачыць, што ў фільме Сцёпка, Міця і Даніла-паліцай размаўляюць па-беларуску, а Маслакоў і Брытвін — па-руску? Як яны разумеюць адзін аднаго пры такім моўным размежаванні? Тут пытанняў задаць можна было б шмат. Але ў каго шукаць адказу? Вядома, цяжка ўявіць, што У. Бобрыкаў размаўляе альбо спявае па-беларуску. Але ж мова твора — не прэрагатыва Бобрыкава, рэжысёра альбо сцэнарыста. Мова твора В. Быкава — беларуская. І гэтая акалічнасць павінна была б стаць законам для беларускіх кінематаграфістаў.

Магчыма, пасля прэм'ернага паказу стужкі ў Бельгіі тамтэйшая прэса назаве работу А. Мароза не менш як «Наступленне савецкага кіно на заходні кінарынак!» Але не будзем перабольшваць у *прагнозах і чаканнях*. Для нас больш важным застаецца ўклад таленавітых майстроў у скарбонку нацыянальнага адраджэння. Гэты ўклад можна канстатаваць, хоць і з вялікімі пытаннямі да аўтараў стужкі. І перш за ўсё таму, што праблематычным застаўся адказ на пытанне: «Дык хто ж узарваў Круглянскі мост?»

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

**Меламаны ды тэатралы Мінска даўно чакалі новую пастаноўку оперы Ж. Бізэ «Кармэн». І вось — прэм'ера. Уражанні яе першых гледачоў неадназначныя, пра што сведчыць і сённяшняя наша публікацыя. Гэты водгук на спектакль прынёс у рэдакцыю госць Мінска, югаслаўскі прафесар К. Віскавіч, які паглядзеў адзін з прэм'ерных паказаў оперы. Чытачам, безумоўна, будзе цікавы погляд спецыяліста «збоку». Рэдакцыя ж на гэтым не спыняе абмеркаванне прэм'еры: грунтоўная размова пра новую пастаноўку «Кармэн» ужо рыхтуецца да друку.**

# НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД

**«КАРМЭН» у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР**

Характэрнае для пастаноўкі оперы Ж. Бізэ «Кармэн» на мінскай сцэне рэжысёрам В. Цюпам — імкненне да новага поруч з чымсьці супрацьлеглым. Так, відавочныя два супрацьлеглыя стылі ды прыёмы працы з выканаўцамі: мадэрнізм і даўно аджылы класіцызм. Прытым і тое, і другое падаецца празмерна і— з памылковым разуменнем і таго, і другога. Калі прыняць як новае сцэнаграфію (У. Жданаў), блізкую да абстрактнай плыні ў жывапісе, дык гэта не значыць, што яна не магла б быць адначасова і больш натуральнай, як, зрэшты, і сама пастаноўка. Гэта было б і лягчэй для выканаўцаў, і больш прымальна для гледачоў. Ды, на жаль, у пастаноўцы «Кармэн» арыгінальнасць падменена арыгінальнічаннем — арыгінальнасцю любой цаной, дзе яна патрэбная і дзе непатрэбная, цаной ажно сутыкнення з асноўнымі заканамернасцямі мастацтва.

Найбольшая бяда ў тым, што спевакі былі да таго запраграміраваныя рэжысёрам, што для сваёй чыста акцёрскай інтэрпрэтацыі не мелі амаль ніякіх магчымасцей. Дуэты Кармэн — Хазэ і Кармэн — Тарэадора выконваліся часцей за ўсё ў ненатуральнай гутарковай сітуацыі, калі суразмоўнікі адвярнуліся адно да аднаго спіной. Гэта скрэслівала асноўнае патрабаванне і асноўную перадумову камунікацыі псіхалагічна абгрунтаванай. Гэта тым больш недаравальна, калі гаворка ідзе пра выкананне геніяльнага твора Ж. Бізэ, кампазітара, як вядома, адметнага псіхалагічнай глыбінёй, рэалізмам, што перадаецца ва ўсіх арыях, заснаваных на народных мелодыях.

Агульнавядома, што паміж стылем кампазіцыі і стылем яе выканання мае быць наладжана гармонія, павінен быць максімальна захаваны прынцып узаемасувязі паміж імі. Аднaчасова той самы прынцып павінен дзейнічаць і ў стасунках рэжысёра ды інтэрпрэтатара. І тады са сцэны публіцы перадаецца цесная ўзаемасувязь знешніх, акалічнасных, сітуацыйных ды ўнутраных, драматычных і вакальных якасцей інтэрпрэтацыі твора.

Але менавіта гэтага і не было!

Да болю ў душы адчувалася, што спевакі, асабліва салісты, былі выканаўцамі прыхамаці рэжысёра, а не задумы і не ідэі Ж. Бізэ. Яны бышцам нябачнымі нітачкамі былі звя-

# МЕНЕДЖЭР ДЛЯ... КУЛЬТУРЫ

Выпуск слухачоў школы менеджэраў адбыўся ў Рэспубліканскім інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. Першымі слухачамі яе сталі дырэктары дамоў культуры, загадчыкі арганізацыйна-метадычных сектараў аддзелаў культуры, дырэктары паркаў культуры і адпачынку.

**— Задачай нашай школы, — гаворыць куратар групы менеджэраў В. Бутэнка, — мы лічым падрыхтоўку высокакваліфікаваных, ініцыятыўных спецыялістаў-практыкаў у галіне арганізацыі вольнага часу насельніцтва. Імкнёмся даць ім арганізацыйныя і эканамічныя навыкі правядзення свят, фестываляў, конкурсаў, выставак, укаранення новых перспектыўных мадэляў і форм работы (у тым ліку і платных). Паколькі справа гэта новая, школа адкрыта ўпершыню, праблем хапала. Галоўная цяжкасць, што ў рэспубліцы няма выкладчыкаў, якія спецыялізуюцца па менеджменту ў гэтай галіне, не хапае спецыяльнай літаратуры. Але школа такая патрэбна і яна будзе працягваць работу. Сёлета плануецца падрыхтаваць дзве групы: арганізатараў вольнага часу ў культасветустановах і кіраўнікоў бібліятэк. Адбор у школу будзе праводзіцца на конкурснай аснове.**

Заняткі праходзілі на базе ўстаноў культуры Вільнюса, Тракая, Рыгі. Асаблівую карысць слухачы атрымалі ад знаёмства з эксперыментальным цэнтрам «Форум» (Рыга), які займаецца арганізацыяй конкурсаў прыгажосці, канцэртаў, выставак жывапісу.

Шмат карыснага пераймалі слухачы ў час знаёмства з маладзёжным цэнтрам «Арыенцір» у Мінску, Творчай лабараторыяй фальклорных інструментаў у МІК, фірмай «Адпачынак».

**— Практычную карысць вучобы мы адчулі, калі непасрэдна прыступілі да працы, — расказвае слухач першага выпуску загадчык Слуцкага райаддзела культуры А. Грэкаў. — Асабліва запомнілася стажыроўка на базе Цэнтра культуры і адпачынку ў Віцебску, якім кіруе Р. Бас. Для нашага раёна перанялі вопыт віцяблян па выкарыстанню пустуючых будынкаў.**

Чым выклікана неабходнасць такой вучобы? З гэтым пытаннем звяртаюся да намесніка міністра культуры рэспублікі У. Мацвеева:

**— У апошні час назіраецца абвостраная цікавасць да нацыянальнай культуры, яе гісторыі, мерапрыемстваў, звязаных з адраджэннем народных традыцый, такіх як свята «Каляды», «Купалле» і інш. Але ў нас падобныя святы аднастайныя, бо ў рэспубліцы мала таленавітых рэжысёраў, арганізатараў правядзення вольнага часу насельніцтва. Менеджэр — чалавек, здатны думаць нестандартна, здатны на творчы пошук. Гэта вельмі неабходныя рысы сёння для работнікаў культуры. У сувязі з вострым дэфіцытам бюджэта на патрэбы культуры пашыраюцца платныя паслугі. І тут ёсць рызыка пераўтварыць дамы культуры ў танцпляцоўкі. А арганізаваць па-сапраўднаму вольны час насельніцтва значна цяжэй. Тут ёсць чаму павучыцца. Мы ў рэспубліцы, напрыклад, выкарыстоўваем не больш дзесяці відаў адпачынку, у той час як сусветная практыка ведае амаль трыста. Трэба вывучаць і прапагандаваць гэты вопыт. Таму на школу менеджэраў ускладаецца вялікая задача і вялікія надзеі...**

Д. ГУСЕВА,
старшы рэдактар ІПК работнікаў культуры.

заны ненатуральнымі пазіцыямі ў сітуацыях, дзе акрэслівалася стаўленне адно да аднаго. Колькі б яны ні намагаліся данесці да публікі, якая не толькі слухач, але і глядач, сапраўдныя чалавечыя сітуацыі ды пачуцці, што выражаюцца ў гэтых сітуацыях музыкай, спевамі, — яны не маглі цалкам зламаць нябачны, але адчувальны бар'ер паміж інтэрпрэтацыяй партытуры роляў і самой пастаноўкай. Рэжысёр не даваў спевакам, так бы мовіць, з месца рушыць. Таму і ігра была не на той вышыні, на якой было іхняе спяванне. Ігра нагадвала плаванне рыбак у маленькім акварыуме. З пункту гледжання вакалу «плавалі» яны прыгожа, але не надта ўжо весела, бо ім цесна было ў вузкіх рамках «акварыума рэжысуры».

Можна адзначыць новае вырашэнне рэжысёра: сімвалічнае прадстаўленне забойства Кармэн. Яно само па сабе апраўданае — і псіхалагічна, і сцэнічна. Але ў любым мастацтве ўсё залежыць ад пачуцця меры. Тут бяда ў тым, што нож як сімвал забойства пастаянна, ад пачатку да канца оперы, з'яўляецца адасоблена ад ходу дзеяння. Напрошваецца выснова, што Хазэ... прафесійны забойца накшталт Спарафучыле ў «Рыгалета». Ці выснова такая: што ў гэтым народзе, у гэтым асяроддзі, дзе адбываюцца падзеі «Кармэн», нож стаіць на нейкім асаблівым, высокім п'едэстале.

Сцэны з дзецьмі замест балета, прадугледжанага аўтарам, можна было б ухваліць, калі б рэжысёр гэтым не злоўжываў надта бязлітасна. Ён і тут даваў волю сваёй адвольнай фантазіі, адарванай як ад жыццёвай, так і ад тэатральнай рэчаіснасці.

Аднак спектакль меў поспех дзякуючы высокім вартасцям вакалістаў і аркестра (дырыжор А. Анісімаў), асабліва — выкананню ролі Кармэн Н. Галеевай. Я меў магчымасць



слухаць Кармэн у выкананні розных спявачак сусветнай славы, такіх, як Берганса Тэрэза (Іспанія), Ф'ёрэнса Касота (Італія), Малібран Марыя Фелісіто (Францыя), Алена Абразцова (СССР), Аніта Мезетова (СФРЮ), Шырле Верэт (ЗША) і інш. І ўпэўнена магу сказаць, што з пункту гледжання вакалу Н. Галеева ім не саступае.

На жаль, пастаноўка толькі абцяжарыла выкананне задач мінскімі салістамі і ў псіхалагічна-акцёрскім плане, і ў чыста фізічным. Апроч іншага, я ніяк не магу зразумець і такое. Тэатр афішыраваў толькі дзвюх спявачак у галоўнай партыі, салістка Н. Галеева, якая выканала ролю Кармэн з самым высокім майстэрствам, — не афішыраваная. Гэта проста недапушчальна. Але каб мае словы пра яе майстэрства не падаліся пустымі, дазволю сабе іх абгрунтаваць.

Перадусім, у Н. Галеевай высокая тэхніка, майстэрства спявання, выяўленае ў тым, што яна пяе заўжды «легата», ніколі не фарсіруе, моц яе голасу ў ягоным рэзанансе, а не ў фізічным напружанні. Адсюль і палётнасць, нябесная празрыстасць і лёгкасць яе голасу, разам з яго агромністай сілай. І ўсё гэта — да месца. Калі трэба, гэта ўсмешлівы, калі трэба — збянтэжаны, змрочны або пагрозлівы голас і тон. Але гэта заўсёды адна і тая ж лінія голасу, ураўнаважаная ва ўсіх відах «піяна», «меццa фортэ» і «фортэ» на ўсім рэгістры гучання. Галоўнае — гэты голас з дзівоснай лёгкасцю «накрывае» ўвесь хор ды аркестр, узлятаючы над імі нават пры самым моцным іх гучанні.

Да таго ж (а можа, гэта і самае істотнае), адчуваецца, што артыстка пяе з душой, што яна глыбока разумее і вельмі чула перадае сутнасць характару сваёй гераіні. Падкрэслю, што ў інтэрпрэтацыі Н. Галеевай Кармэн атрымала багата душэўнай чысціні пры ўласцівай для яе страснасці, што ўзвышае гэты характар і надае яму новую каштоўную рысу.

Такім чынам, асноўнае ў пастаноўцы оперы — узаемасувязь усіх яе элементаў (кампазіцыйных, літаратурных, выканаўчых, аркестравых і г. д.) была і галоўнай задачай. Вырашэнне гэтай задачы ў дадзеным выпадку залежала пераважна ад выканаўцаў, асабліва выканаўцаў галоўных роляў і ролі Кармэн...

**К. ВІСКАВІЧ,**
**прафесар, доктар філалагічных навук, літаратурны і музычны крытык (СФРЮ).**

**З пошты аддзела музыкі**

# Якая ж ты, радзіма бацькоў?

**Яшчэ адзін фестываль «Мінская вясна» адышоў у мінулае. Ці стаў ён падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі? Я не імкнуся адказаць зараз на гэтае пытанне. Толькі падзялюся некаторымі думкамі наконт вечара беларускай музыкі і паэзіі «О, радзіма бацькоў», прысвечанага, як і ўвесь фестываль, 500-годдзю Скарыны.**

**Самое імкненне арганізатараў такога канцэрта неяк далучыцца да нацыянальных каранёў, ушанаваць памяць нашага славутага першадрукара, надаць у пэўным сэнсе і ўсяму фестывалю нацыянальны накірунак, — гэта можна толькі вітаць. Але ж ці атрымалася задуманае?**

**Прынамсі, у мяне згаданы канцэрт выклікаў пытанні, на якія даволі цяжка адказаць. Чаму «Вечар беларускай музыкі і паэзіі»? Асобна беларускія вершы ніхто не чытаў, ды і ў вакальных творах яны гучалі не так часта. Ці варта наогул вечар беларускай музыкі і паэзіі весці на рускай мове? Згадзіцеся, не зусім пераканальна ўспрымаюцца словы пра захаванне родных крыніц, роднай культуры, роднай спадчыны, выказаныя не на роднай мове. Незразумелым, дарэчы, засталося і прысвячэнне Ф. Скарыне: пры чым ён тут? Музыка ягонага часу не гучала, твораў, яму прысвечаных ці неяк асацыятыўна звязаных з ім, — таксама, ды і размова пра яго ў той вечар скончылася на ўступным слове вядучай І. Зубрыч (якая гаварыла, дарэчы, добра, цёпла і праніклів а — шкада, усё ж па-руску). І наконт тэкстаў у творах: калі Я. Баратынскага ці А. Пушкіна яшчэ можна звязаць з Белай Руссю праз агульныя ўсходнеславянскія карані, ды ніяк не магу даўмецца, якое дачыненне да «Радзімы бацькоў» маюць Н. Бараташвілі, С. Капуцікян, Р. Гамзатаў?**

**Карацей кажучы, гучная і шматабяцаўшая назва на працягу вечара трохі забылася, нагадаўшы пра сябе толькі аднойчы, у час выканання аднайменнага вакальнага цыкла І. Лучанка.**

**У цэлым жа канцэрт атрымаўся даволі цікавы. Гучала музыка двух беларускіх кампазітараў — Ігара Лучанка і Андрэя Бандарэнкі. Суседства не зусім звыклае, але, здаецца, малады аўтар адчуваў сябе ўпэўнена побач з вядомым «маэстра», а ягоныя творы хутка знаходзілі водгук у слухачоў, асабліва харавыя, выкананыя Мінскім дзяржаўным камерным хорам пад кіраўніцтвам І. Мацюхова.**

**Праўда, узвышаная, духоўна чыстая і прыгожая музыка А. Бандарэнкі, якая зачаравала залу, нягледзячы на яўную сувязь з праваслаўнымі традыцыямі, надта спрэчна спалучалася з назвай канцэртнай праграмы, як і ягоныя ж фантазія для віяланчэлі і фартэпіяна «Славянская даўніна», Струнны квартэт, як і часткі з Санаты для скрыпкі і фартэпіяна і Струннага квартэта яго старэйшага калегі. Не выратавала і тое, што напачатку гучалі беларускія цымбалы (п'еса І. Лучанка «Успамін»), а на заканчэнне—прэм'ера хору І. Лучанка «Курапаты» (дарэчы, чамусьці таксама на рускай мове) і добра знаёмая цудоўная «Спадчына».**

**Не надта была прадумана праграма, бо атрымаўся канцэрт вельмі ўжо вялікім (першае аддзяленне, напрыклад, працягвалася значна болей за гадзіну). І, канешне, самае сумнае пытанне — ад напалову пустой залы. Чаму не прыцягнула ні імя І. Лучанка, ні магчымасць знаёмства з талентам А. Бандарэнкі, ні сама назва? Кажуць, аднак, — усе білеты былі прададзены...**

**Вось такі цікавы, але шмат у чым спрэчны вечар беларускай музыкі і паэзіі. Аб'яўляючы першы нумар («Успамін» І. Лучанка), музыказнаўца І. Зубрыч паведаміла, што аднойчы пад час канцэрта ў Сярэдняй Азіі пасля выканання гэтага твора на сцэну выбег захоплены слухач і ўсклікнуў: «Цяпер я ведаю, якая яна, ваша беларуская зямля!» Шчыра кажучы, я б не адважыўся сказаць такое ні пасля п'есы «Успамін», ні пасля ўсяго канцэрта.**

**Думаю, усялякае імкненне надаць канцэрту, фестывалю, іншай падзеі нацыянальнае аблічча трэба толькі вітаць. Але калі ўжо брацца за справу нацыянальнага адраджэння, дык неабходна рабіць гэта больш далікатна і пераканана, да канца адказна і сумленна.**

**Аляксей САЛАДУХІН.**
г. Гродна.

**КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА**

## Увасоблена ў вучнях

**Ёсць людзі, значнасць спраў якіх не змяншае нават непазбежны рух жыцця. Час быццам высвечвае іх імёны, надаючы ўсё большую важкасць, рэльефнасць. Такое для беларускай духавой музыкі імя Уладзіміра Харытонава, прызнанага лідэра флейтавага выканальніцтва рэспублікі.**

**Выпускнік Ленінградскай кансерваторыі У. Харытонаў прыехаў у Мінск у 1936 годзе; тады ж стаў салістам сімфанічнага аркестра БССР. А з 1937 г. пачынаецца яго саракагадовая педагагічная дзейнасць на кафедры духавых і ўдарных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. З 1946 г. ён — дацэнт кафедры, на працягу 17 гадоў узначальвае яе.**

**Асноўныя якасці Харытонава-педагога — адданасць мастацтву, прафесіяналізм, мэтанакіраванасць, здольнасць зацікавіць моладзь. Сёння не адно пакаленне музыкантаў-флейтыстаў можа назваць сябе паслядоўнікамі яго школы. Выхаванцы Уладзіміра Васільевіча працуюць у большасці аркестравых калектываў рэспублікі, выкладаюць у многіх музычных навучальных установах.**

**Усе вучні У. Харытонава ўспамінаюць пра яго з гарачай удзячнасцю, імя настаўніка — тое звяно, якое з'яднала іх у вялікую дружную сям'ю аднадумцаў, адданых музыцы. Шмат цёплых слоў было сказана Уладзіміру Васільевічу ў той вечар, калі ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адзначаўся яго 80-гадовы юбілей. Але лепшым доказам прызнання і ўдзячнасці любімаму педагогу быў канцэрт, падрыхтаваны старшым выкладчыкам Н. Аўраменкай, якая пераняла музычную эстафету ад свайго настаўніка. Ігралі яе вучні — музычныя ўнукі У. Харытонава: навучэнцы ССМШ пры БДК і студэнты кафедры духавых і ўдарных інструментаў кансерваторыі.**

**Віртуознасць, тэхнічная дасканаласць, што спалучаюцца з прыгажосцю тэмбра і вялікім мастацкім густам, паказалі многія з выканаўцаў. Але асабліва ўразілі выступленні Л. Ласоцкай, дыпламанта Усесаюзнага конкурсу; студэнтаў БДК Я. Віданава, С. Балыкі, Я. Гелера; навучэнцаў ССМШ С. Картэса, А. Груздзева... Аздобілі праграму флейтавыя ансамблі — квартэты, квінтэты, секстэт, якія цудоўна выканалі пералажэнні «Вячэрняй серэнады» і «Музычнага моманту» Ф. Шуберта; «Музычную табакерку» А. Лядава і інш.**

**Л. ЛЯШЧЭВІЧ,**
**выкладчык аддзялення тэорыі музыкі музычнага вучылішча.**

г. Маладзечна.

## За пяць гадоў

Прайшло 5 гадоў, як пачалося сцэнічнае жыццё Струннага квартэта Беларускай дзяржаўнай філармоніі, калі ўпершыню мінчан парадавала добрая сыгранасць, высокі тэхнічны ўзровень і сталасць маладых выканаўцаў. Мінуў час, пазначаны ўпартай працай, улюбёнасцю ў сваю далікатную прафесію, удасканаленнем ведаў, папаўненнем рэпертуару складанымі творамі класічнай і сучаснай музыкі. Квартэт гастраляваў на Беларусі, знаёміў слухачоў з разнастайнымі праграмамі, несучы высокую культуру і густ, дорачы слухачам хвалюючыя хвіліны радасці ды і гонару за сваіх музыкантаў — усе ж удзельнікі квартэта скончылі Беларускую кансерваторыю.

Згадваю іх выступленне пад час фестывалю «Мінская вясна». Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам, пад гром апладысментаў. Людзі слухалі з захапленнем. Выканаўцаў выклікалі на сцэну па некалькі разоў, адорвалі кветкамі, дзякавалі. У ансамблі арганічна раскрыліся і індывідуальныя магчымасці музыкантаў: Ігара Астроўскага (1-я скрыпка), Сяргея Громава (2-я скрыпка), Юрыя Крылова (альт), Ільі Жукоўскага (віяланчэль). Пры выкананні складанай музыкі XX стагоддзя Д. Шастаковіча, К. Шымаsłоўскага і Б. Бартака выявілася высокае майстэрства, артыстызм квартэта.

На жаль, у горадзе амаль не было належнай рэкламы, афіш гэтага канцэрта, з-за чаго многія прыхільнікі жанру абмінулі сустрэчу са струнным квартэтам БДФ.

Пяць гадоў — гэта многа ці мала для такіх дасягненняў, якіх дабіліся нашы музыканты? Дык пажадаем ім далейшых поспехаў!

**А. ГРЫШКОВА.**

## Трапяткія гукі рамансa

Рамансa — невыказнае хараство музыкі і слова. Гэта тэатр паэта, кампазітара і выканаўцы ў адной асобе. Мастацтва рамансa гаворыць само за сябе зліццём высокай паэзіі і музыкі.

У такой уладзе гармоніі верша і «стройных октав» знаходзіліся сэрцы гараджан, што сабраліся ў ДК прафсаюзаў на гэты вечар. А між тым, стваральнікі літаратурна-музычнай кампазіцыі нават сумняваліся, што рускі рамансa збярэ публіку, тым больш, было гэта пасля правядзення двухгадзіннай канцэртнай праграмы...

Прагучалі першыя акорды рамансa А. Абазы на тэкст І. Тургенева «Утро туманное» — і цуд здзейсніўся! У імправізаванай гасцёўні ўстанавілася атмасфера яднання думак, атмасфера даверу і дабра паміж аматарамі рамансa і артыстамі Брэсцкай абласной філармоніі.

Рускі рамансa — феномен рускай нацыянальнай культуры, які, аднак, мае ўласцівасць выходзіць за рамкі гэтай культуры ў асобным чалавечым лёсе. Таму, нягледзячы на вострыя сучасныя праблемы, ад якіх кругам ідзе галава, застаецца ўсё-такі месца для «ілюзіі прыгожага цяперашняга», што выяўляецца праз імкненне чалавека да музыкі і слова. Хочацца верыць, што семсот аматараў рамансa — гэта толькі малая частка чалавецтва, гатовага вярнуцца да страчанага адчування дабра праз магію гуку і слова. Мо і сапраўды — «Прыгажосць уратуе свет!»

**У. ЯШЧУК.**

г. Брэст.

## Сустрэча прынесла радасць

Вялікай радасцю для навучэнцаў і педагогаў нашай музычнай школы была сустрэча з салісткай ДАВТа БССР заслужанай артысткай рэспублікі Людмілай Колас. Аматары мастацтва ведаюць яе як выканаўцу вядучых партый опернага рэпертуару.

На гэты раз спявачка парадавала слухачоў выкананнем камернага рэпертуару. Яе прыезд у маленькі Слонім—прыемная нечаканасць і радасць для сапраўдных аматараў музыкі. У XVIII стагоддзі ў нашым горадзе паспяхова працаваў оперны тэатр пры двары гетмана Агінскага, дзядзькі вядомага кампазітара, ставіліся оперы і балеты, была музычная і балетная школы, якія рыхтавалі артыстаў для трупы. Слонім быў адным з буйных культурных асяродкаў не толькі Беларусі, а і Еўропы.

У гутарцы са слонімскімі слухачамі і юнымі музыкантамі Л. Колас заўважыла: «Вельмі шкада, што Слонім страціў сваю ролю аднаго з вядучых культурных асяродкаў Беларусі. У вас так многа людзей, якія любяць оперу, што свой оперны тэатр для вас быў бы дарэчы. На жаль, відаць, гэта толькі цудоўная мара...»

**А. МАСЛЯНІЦЫН,**
**выкладчык музычнай школы.**

г. Слонім.

## Алесь КАСКО



●

Хлопцы мае — белыя вароны.
Горад азірнецца — уздыхне
ці пагардай, быццам з-пад кароны,
з-пад брыля праніжа, не зміргне.

Не адвернуцца, ды дзе ў закутку,
ля глухое шэрае сцяны,
сціснуць скроні ў роспачы і смутку...
Белізна — з адценнем сівізны.

З-за сцяны нярэдка далятаюць
і да іх былыя галасы:
«Дзе ж улады? Ці варон страляюць?»
Не страляюць... Новыя часы!

Не баяцца брудных нагавораў:
мужныя, ачысцяцца ў вяках;
не ўваскрэсне, бог дасць, хіжы воран,
не спародзіць болей «варанка».

Толькі мала іх, яшчэ так мала...
Ім у тлумных вулках гарадскіх,
у перанаселеных кварталах
хочацца падобных да саміх.

Бліснe вера ў сэрцах іх збалелых —
весялеюць позіркі ва ўсіх,
і тады на вулках белым-бела,
светла скрозь на Белай іх Русі.

Свежы снег айчынны край палоніць,
росны май расквечвае сады?..
Хлопцы мае —белыя вароны—
ані з кім не розняцца тады.

### Магчымыя рэвалюцыянеры

Перабудоўваць — а хоць паў-Зямлі! —
ці мала які
сёння ўзяўся б заўзятар.
Адно каб надзейнае крэсла далі,
прыслугу ў спаднічках,
слугу ў шынялі
і дадалі сотні тры да зарплаты...

### Апошнія хвіліны Ігната Грынявіцкага

Ідзіце!.. Датрываю муку
адзін, без крыўды на сяброў.
Хай застаецца мая кроў
на жорсткім пецярбургскім бруку.
Сумленнем чысты перад богам,
я праўды ведаю цану.
Дык не пытайцеся, чаму
падняў руку я на «самога».
Тупая царская пыхлівасць
нікчэмней за халопскі лёс.
Хто да канца свой крыж пранёс,
таму адзін цар — справядлівасць.
А там... на цёмнай Беларусі...
яшчэ ўсё верыць мой народ.
Няхай! І там настане год,
які паўстаць яго прымусіць.
Магчыма, сведчыць потым буду
я, мёртвы, святасць, моц яго.
А вы... вы з ім не аднаго
змагчы патрапіце прыблуду.
Ідзіце!.. Абмінаць мусова
мясціну гэтую царам,
а кроў — хоць кропля — будзе вам
свяціць журботна і сурова.

### З мастакамі на эцюдах

Горам прыйшло адкрыццё:
самыя важкія словы
вечныя трацяць асновы...
Фарбы! Пра што маўчыцё
над краявідам суровым?

Сеем, кахаем нанова,
але сядзіць, бы асцё,
розгалас палешуковы:
як нам вярнуць пачуццё,
што гэты край не часовы?

Скончыўся дождж прамянёвы,
звяла ў зародку дзіцё...
Знак ненадзейнай аховы —
цёплы сюжэт мастаковы:
жыта, жанчына, жыццё.

### Пасляваенная балада

На сваіх усё руках:
сена ў копы — па імхах,
дровы ў санках — па лядку,
рэдка дзетак — па садку.

Рукі-ручанькі баляць:
і касіць самой, і жаць.

На сваіх усё руках:
ткаць і прасці — па дварах,
за ручнік — па медзяку,
па слязіне — на шчаку.

Рукі-ручанькі баляць:
ні прасіць, ні жабраваць.

На сваіх усё руках:
вестку — мужу ў Салаўках,
хлеб — матулі на палку,
хрэст — на картачку ў кутку.

Рукі-ручанькі баляць:
гора горам не падняць.

На сваіх усё руках:
дзетачак — па дактарах,
а самой — па скразняку
то ў палях, то на таку...

Рукі-ручанькі баляць:
цяжка свечачку трымаць.

●

Мудрыя маладыя творцы
грэбліва пазбягаюць
уздыбленых вуліц,
здратаваных газетных загонаў,
расплаўленых тэлеэкранаў —
таго, што нявартае
богаабраннікаў.
Іх кватэрны зацішак
дыхае наканаванасцю —
паказацца аднойчы народу
ў геніяльных «Аблавах»,
і «Знаках бяды», і «Сотнікавых»...
А пакуль што
мудрыя маладыя творцы
паблажліва ставяцца
да пілігрыма ўздыбленых вуліц,
ратая газетных загонаў,
сізіфа нясцерпных пытанняў
Васіля Уладзіміравіча Быкава.
І ён, трэба думаць,
вельмі ж усцешаны
найсправядлівейшым падзелам
беларускае працы.

### Дзіцячыя ахвяры

Калі на двары ўсё цяплей
і скрозь мільгацяць матылькі,
мне бачацца душы дзяцей,
вунь тая — уласнай дачкі.

І што мне вясновы твой такт,
зямля, з тваім ладам усім!
Дачка не магла проста так
пакінуць мяне назусім.

Таму ў мяне столькі любві
да веселуна-хлапчука,
што ловіць — не ў сіле злавіць
маленечкага матылька.

Спаткаюцца, пэўна, яны
не тут, не цяпер — а калі
пазбудуся ўрэшце віны,
якую прыняў ад зямлі...

# «АБЭЦЭДАРШЧЫНА»

**Развагі пра манапалізм у навуцы**

**Сямён ПАДОКШЫН,**
доктар філасофскіх навук

У ДАДЗЕНАЙ публікацыі размова пойдзе не столькі аб добра вядомай спробе прафесара Л. С. Абэцэдарскага ўмацавацца ў якасці манапаліста ў беларускай гістарычнай навуцы, колькі аб свабодзе як фундаментальнай уласцівасці, асноватворным прынцыпе ўсякай, у тым ліку і навуковай, творчасці, а таксама аб тых сумных выніках у духоўным жыцці грамадства, у культуры і навуцы, да якіх прыводзіць дэфармацыя, парушэнне, скажэнне гэтага прынцыпу. Карацей кажучы, наш нарыс не столькі пра Л. С. Абэцэдарскага — канкрэтнага чалавека і вучонага, колькі пра тую дэфармаваную пазіцыю ў духоўным жыцці грамадства, беларускай навуцы, якую ён прадстаўляў. Думкі і ацэнкі, якія змяшчаюцца ў маёй публікацыі, не прэтэндуюць на ісціну ў апошняй інстанцыі. Яны адкрытыя для крытыкі. Мала таго, я запрашаю да актыўнага, зацікаўленага абмеркавання праблемы, якую я закрануў.

Паняцце «абэцэдаршчына» ўжо даўно лунала ў паветры навуковага і культурнага жыцця нашай рэспублікі, аднак само гэтае слова было вымаўлена параўнаўча нядаўна, наколькі памятаю, на старонках газеты «Літаратура і мастацтва». Не буду займацца высвятленнем, каму належыць прыярытэт у яго вынаходніцтве, але, здаецца, яно нарадзілася ў пісьменніцкім асяроддзі. «Абэцэдаршчына», на мой погляд, вельмі ёмістае паняцце, даволі ўдалае і актуальнае, асабліва ў нашы дні, калі пераглядаецца не толькі змест савецкай гуманітарнай навукі, але і спосаб, метад яе стварэння.

Але... аўтары, якія ўвялі гэта паняцце ў літаратурны зварот (дазволю сабе каламбур) сказаўшы «А», не сказалі «Б» і «Ц», гэта значыць, яны далі імя з'яве, але не высветлілі сутнасці гэтай з'явы, што — галоўнае. Асабліва цяпер, калі беларуская культура, гуманітарная навука перажываюць перыяд радыкальнага абнаўлення, а ў шэрагу выпадкаў і свайго другога нараджэння і станаўлення, калі неабходна пазбавіцца ўсяго таго, што ў ранейшыя (мінулыя) часы было крыніцай дэфармацый і застою ва ўсіх галінах.

Дык што ж такое «абэцэдаршчына»? Былыя студэнты Лаўрэнція Сямёнавіча сцвярджаюць, што ён з'яўляўся добрым лектарам. Я таксама неаднаразова слухаў яго публічныя выступленні і павінен сказаць — яны рабілі моцнае эмацыянальнае ўражанне. Л. Абэцэдарскі, як вядома, быў даследчыкам беларускай гісторыі XVI—XVII стст., аўтарам некалькіх манаграфій шматтомнай «Гісторыі Беларускай ССР», школьных падручнікаў па гісторыі БССР і інш.

На мой погляд, асноўная загана Л. Абэцэдарскага як вучонага заключаецца ў тым, што ён вельмі часта ішоў у сваіх даследаваннях не ад факта, а ад зададзенай канцэпцыі. На гэтым памылковым шляху ён быў вымушаны рабіць тое, што разбурае асобу вучонага: падганяць гістарычныя факты пад загадзя сканструяваную схему, а ўсё, што супярэчыць гэтай схеме,—адкідаць або не прымаць у разлік. Дзеля справядлівасці варта сказаць, што гэтым грашыў не ён адзін, але ён з'яўляўся найбольш тыповым прадстаўніком даследчыкаў такога роду.

Я не прэтэндую на вычарпальны гістарыяграфічны аналіз навуковых поглядаў Л. С. Абэцэдарскага, хоць патрэба ў такім аналізе вельмі наспела. Часткова гэта ўжо робіцца. Маю на ўвазе, напрыклад, публікацыі М. Біча «Канцэпцыя праўды» («ЛіМ», 9.IX.1989), А. Грыцкевіча «Прынцыпы і факты» («ЛіМ», 29.IX.1989) і інш. Лічу, што аналіз прац Л. Абэцэдарскага не павінен зводзіцца да агульнага адмаўлення яго доследных вынікаў. З аднаго боку, належыць высветліць тое, што ён унёс пазітыўнага ў беларускую гістарычную навуку, з другога — у чым ён памыляўся, але галоўнае, што ён наўмысна (знарок) скажаў, свядома фальсіфікаваў, кіруючыся як кан'юнктурнымі, так і кар'ерысцкімі меркаваннямі. Бо, калі ненаўмысная памылка ў навуцы не заганная, то свядомая, злонаўмысная фальсіфікацыя — гэта ўжо вялікі смяротны грэх. Нездарма лжывых гісторыкаў параўноўваюць з фальшываманетчыкамі.

Наўгад вазьму два даволі тыповыя прыклады «аргументацыі» Л. Абэцэдарскага. Вось як ён абгрунтоўвае свой тэзіс аб выключна літоўскім характары дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага. «У асобных выпадках, — піша ён у сваёй працы «У святле неабвержных фактаў» (Мінск, 1969), — буйныя беларускія феадалы, пераважна каталіцкага веравызнання, дапускаліся да высокіх урадавых пасад, але гэта не з'яўляецца сведчаннем, што Вялікае княства Літоўскае было беларускай дзяржавай. Вядома, што высокую ўрадавую пасаду падскарбія Вялікага княства Літоўскага (адпаведную пасадзе міністра фінансаў) у канцы XV — пачатку XVI ст. займаў яўрэй Аўрам Езофавіч Рабчыковіч, аднак было б недарэчна на падставе гэтага факта сцвярджаць, што у Вялікім княстве Літоўскім дзяржаўная ўлада належала яўрэйскім купцам і ліхвярам. Дзяржаўная ўлада ў Вялікім княстве Літоўскім заўсёды належала літоўскай феадальнай знаці». Такім, мякка гаворачы, сафістычным спосабам (сафізм — хлусня, мана, якая здаецца ісцінай) даказваць літоўскі і адмаўляць беларускі характар дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага — гэта значыць абсалютна не паважаць чытача, лічыць яго абмежаваным і прымітыўным.

А вось які «гістарычны прысуд» выносіць той жа аўтар Льву Іванавічу Сапегу, выдатнаму палітычнаму дзеячу і мысліцелю Вялікага княства Літоўскага: «Адным з укладальнікаў Трэцяга Літоўскага статута 1588 г. (а пісаць належала б — Статута Вялікага княства Літоўскага — але гэта скажэнне таксама наўмыснае, бо яно працуе на канцэпцыю Абэцэдарскага.—С. П.) быў Леў Сапега — буйны феадал, канцлер Вялікага княства Літоўскага, закляты вораг народных мас Беларусі. За ўдзел у паўстанні супраць уніі Сапега прыгаварыў да пакарання смерцю 120 жыхароў Віцебска. Ён вядомы і шмат якімі іншымі крывавымі расправамі над беларускімі сялянамі і гараджанамі. Рымскія папы Клімент VIII і Павел V усхвалялі Сапегу за тое, што ён прыкладаў усе свае намаганні, каб акаталічваць беларускі народ. Буржуазна - нацыяналістычныя фальсіфікатары гісторыі з замілаваннем усхваляюць яго як выдатнага дзеяча беларускай культуры за тое, што свае крывавыя законы і прыгаворы ён пісаў па-беларуску» (там жа, с. 53).

Сёння гэтыя вульгарна-сацыялагічныя разважанні чытаць смешна! Тут праўда свядома зблытана з відавочнай маной. Або Л. Абэцэдарскі быў пазбаўлены элементарнага пачуцця гістарызму, не ведаў даступных крыніц (а гэта было не так), у прыватнасці, вядомых прадмоў падканцлера Льва Сапегі да Статута Вялікага княства Літоўскага, у якім ён абгрунтоўваў ідэю прававой дзяржавы, і знакамітага ліста Сапегі ўніяцкаму архіепіскапу Іасафату Кунцэвічу, у якім канцлер ганіў (асуджаў) прымусовае схіленне беларусаў і ўкраінцаў да уніі, выступаў за свабодны рэлігійны выбар — або ён наўмысна фальсіфікаваў гісторыю, разлічваючы на «беспакаранасць», гэта значыць, на тое, што ў існуючых грамадскіх умовах яму не толькі ніхто не асмеліцца, але і практычна не зможа запярэчыць.

Цяпер, калі мы атрымалі шырокі і свабодны доступ да тэкстаў Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года, а гэта значыць і да выдатных прадмоў Сапегі, — можна наглядна пераканацца ў тым, чаго варта вышэйпрацытаваная ацэнка Л. Абэцэдарскага.

І ўсё ж такі, на мой погляд, не гэта складае сутнасць паняцця «абэцэдаршчына». Ва ўмовах публічнасці і канцэптуальнага плюралізму кожная наўмысная дэфармацыя ісціны не выклікае сур'ёзнай небяспекі для навукі, паколькі яна недаўгавечная і нічога не можа прынесці аўтару, апрача канфузу, а ў лепшым выпадку — «герастратавай славы».

Дык усё ж, што такое «абэцэдаршчына»? А, можа, гэта сума асноватворных ідэй і канцэптуальных установак гісторыка Л. Абэцэдарскага — катэгарычнае непрыманне версіі аб балцкім субстраце ў фарміраванні беларускай народнасці, якая (г. зн., версія), на яго погляд, ёсць нішто іншае, як «хлуслівыя сцвярджэнні сучасных фальсіфікатараў

(Працяг на стар. 14—15).

*Да 450-годдзя з дня нараджэння Васіля ЦЯПІНСКАГА*

*Пошукі, знаходкі*

# ТАЙНА ЦЯПІНСКІХ МАГІЛЬНІКАЎ

**Востры асенні вецер апякае твар, і слёзы міжволі выбіваюцца з вачэй. Асабліва калючы скразняк тут, на пустэчы, каля руін былога касцёла. Побач — не надта шырокая стужка гравійкі-бальшака. Адсюль, ад цвінтара, добра бачна, як бальшачок выплывае з вёскі Цяпіна і цячэ на захад.**

**Прыжмурыўшыся, я пазіраю на аддалены пагорак. Гэта былы двор Цяпіна. Там і стаяў некалі маёнтак выдатнага беларускага асветніка і грамадзяніна, пісьменніка і кнігавыдаўца XVI стагоддзя Васіля Мікалаевіча Амельяновіча-Цяпінскага.**

**Не псеўданім. А між іншым, на старонках некаторых кніг па старажытнай беларускай літаратуры так і сказана, што Васіль Мікалаевіч Амельяновіч меў псеўданім «Цяпінскі». У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (том 5) маці В. Цяпінскага Матрона называецца «Мікалаевая Цяпінская».**

**Дзеля чаго ўся гэта гаворка? А дзеля таго, што ў пошуках апошняга месца жыцця В. Цяпінскага можа быць рашаючай, вызначальнай самая дробная, на першы погляд, дэталь. Напрыклад, звесткі з літаратурных крыніц, надпісы на надмагільных камянях з прозвішчамі Амельяновічаў, Жыжэмскіх (Соф'я Жыжэмская — жонка В. Цяпінскага) і г. д. маглі б аказаць вялікую паслугу ў вызначэнні месца пахавання В. Цяпінскага, імя якога стаіць побач з імёнамі Ф. Скарыны і С. Буднага.**

Якім ён быў, той маёнтак, ніхто ўжо не скажа. Да сённяшняга дня ва ўсіх падручніках, слоўніках і манаграфіях памылкова ўказваецца, што родавы маёнтак Васіля Цяпінскага быў у вёсцы Цяпіна. Якая ўжо тут спадзеўка на характарыстыку маёнтка, калі нават месца яго знаходжання не ўказана дакладна! Маёнтак ніколі не стаяў у вёсцы Цяпіна. Адлегласць паміж вёскай і дваром — каля трох кіламетраў. Іх спрадвеку падзялялі поле, балаціна, рэчка, а таксама двое могілак.

Каля мяне стаяць вучні дзесятага класа Цяпінскай сярэдняй школы Саша Шамархан і Мікола Шасціткa. Ім, як і мне, вельмі хацелася б адшукаць магілу Васіля Цяпінскага. І вучні, і настаўнікі мясцовай школы з ахвотаю памагалі б у пошуках месца пахавання знакамітага земляка.

Праўда, прасцей і спакайней было б не брацца за гэтую справу наогул. У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі пасміхнуліся: «А як вы па касцях вызначыце, хто ляжыць у магіле?» І мне зрабілася сумна ад гэтых слоў, бо знявагай да памяці выдатнага нашага асветніка патыхнула ад такога «жарту».

Што зробіш, калі нават прозвішча Цяпінскага некаторыя супрацоўнікі таго ж музея, работнікі Віцебскага гарвыканкома і асобных устаноў культуры вымаўлялі з націскам на другім складзе.

А між тым, стаіць на Віцебшчыне, за нейкіх сто кіламетраў ад абласнога цэнтра, вёска Цяпіна, а крыху далей — і сам двор Цяпіна. І з кім бы я ні гутарыў тут, мясцовыя жыхары вераць у тое, што Цяпіна названа было некалі ў гонар Васіля Цяпінскага.

Вядомыя даследчыкі жыцця і творчасці В. Цяпінскага лічаць, што прозвішча Амельяновіч — гэта бацькоўскае прозвішча. Але пэўных звестак пра бацьку Васіля Мікалаевіча не захавалася. Можна дапусціць, што гэта прозвішча і па маці. Бо «Польскі слоўнік біяграфічны» (Кракаў, 1938 г., том 4) называе Васіля Цяпінскага сынам «Мікалая Іванавіча з Цяпіна Цяпінскага, земяніна полацкага». Калі верыць слоўніку, дык выходзіць, што прозвішча «Цяпінскі» — не псеўданім.

І вось я і мае памочнікі Саша і Мікола гадаем, на якія могілкі пайсці спачатку: на панскія ці вясковыя? Справа ў тым, што могілак тут двое, іх падзяляе ўсё той жа бальшачок. Накіруемся на панскія.

На могілках даводзіцца прадзірацца праз густы хмызняк, які буйна разросся тут, схаваўшы ад людскіх вачэй і былыя магілы, і падмурак былой царквы Святога Міколы. Падумалася, што В. Цяпінскага маглі пахаваць каля царквы. Але ён не быў свяшчэннаслужыцелем і адмоўна адносіўся да папоў. З другога боку, В. Цяпінскі — сын свайго часу. Ён глыбока верыў, што рэлігійныя кнігі нясуць асвету народу. Да таго ж, жонка яго была ўроджаная князёўна. І калі яна, напрыклад, памерла раней, чым Васіль Мікалаевіч, то пахаваць яе маглі каля царквы, а пазней там жа — і самога Цяпінскага.

Аднак ніякіх слядоў (перш за ўсё — надмагільных камянёў) ля колішняй царквы няма. Праўда, камяні з цягам часу «тонуць» у зямлі. Так, з паўтараметровай глыбіні быў выкапаны надмагільны камень Фелікса Тапчэўскага. Дарэчы, зрабілі гэта не спецыялісты-археолагі, а энтузіясты-сяляне пад кіраўніцтвам І. В. Законнікава, бацькі паэта Сяргея Законнікава. Перад тым, як пайсці на могілкі, я быў у Серафімы Іванаўны Івашэнь, якой ужо больш за восемдзесят год. Яна шмат дзесяцігоддзяў пражыла ў хаце, што стаіць на беразе рачулкі Акоп, якраз насупраць пагорка, на якім быў маёнтак. Цяпер Серафіма Іванаўна жыве ў Цяпіне і расказала мне, што ведала пра панскія могілкі.

Аказваецца, незадоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі на гэтым кладзішчы было сем магіл з чорнымі надмагільнымі камянямі і дзве магілы — з шэрымі камянямі. Пасля рэвалюцыі марадзёры раскапалі магілы, шэрыя камяні, на якіх былі выбіты крыжы і нейкія надпісы, пайшлі на жорны. Пазней ужо сучасныя марадзёры на «Волгах» і «Жыгулях» укралі пяць камянёў з чорнага граніту, якія стаялі над магіламі членаў сям'і аднаго з позніх уладальнікаў цяпінскага маёнтка (у XIX стагоддзі) Разеншэльда-Паўліна.

Ідзём на вясковае кладзішча, дзе спрадвеку хавалі жыхароў Цяпіна і Запружанаў. На пагорку вартуюць спакой пахаваных тут клёны, елкі, бярозы. Заходні схіл могілак моцна размылі ліўні, і ў балаціну траплілі невядома па кім пастаўленыя каменныя помнікі.

І ўсё ж верыцца, што можна знайсці, калі добра пастарацца, апошні прытулак Васіля Мікалаевіча Цяпінскага...

Потым мы пабывалі на месцы, дзе стаяў некалі маёнтак. Што тут цяпер? Хмызняк. Усё, што можна было разбурыць і перайначыць, разбурана і перайначана. На месцы маёнтка — пустка. Возера зарасло, ад млыноў засталося некалькі камянёў, гасцінец парос травой, мост разбураны, ад ліп, бяроз і дубоў — адны ўспаміны. Затое непадалёк стаяць жывёлагадоўчыя памяшканні, іншыя гаспадарчыя пабудовы.

І ўсё ж мясцовыя жыхары (і не толькі яны) вераць, што з цягам часу будзе ўслаўлена імя Цяпінскага. Гэта ж недарэчна, злачынна, што дасюль ні ў Чашніках, ні ў Віцебску, ні ў Мінску няма ніводнай установы культуры, якая б насіла імя В. Цяпінскага. Няма шыльды з ягоным імем ля дзвярэй якой-небудзь школы, інстытута, друкарні, рэдакцыі, кнігарні і г. д. Імем яго не названа ніводная вуліца ў Мінску, Віцебску, Чашніках, Нясвіжы, Лідзе, Полацку. Няма тут і мемарыяльных дошак, аддзелаў у музеях, прысвечаных памяці В. Цяпінскага.

Думаецца, час вярнуць з Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына адзіны экземпляр «Евангелля» з укладзеным у яго тэкстам «Прадмовы» В. Цяпінскага ў аддзел рэдкіх кніг нашай акадэмічнай бібліятэкі. Згадваецца лёс іншых экземпляраў «Евангелля». Адзін быў у свой час у бібліятэцы Антоніева-Сійскага манастыра Архангельскай губерні, дзе цяпер — невядома. Другі быццам бы знаходзіўся ў бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе, а дзе ён цяпер? У 1915 г. беларускі бібліёграф Р. Зямкевіч у бібліятэцы К. Святаполк-Завадскага ў Крошыне знайшоў было партрэт В. Цяпінскага сярод старонак брэсцкай біблii 1563 года. Ды, на жаль, да нашага часу партрэт не захаваўся.

Вядома, старажытны фаліянт, на стварэнне якога В. Цяпінскі аддаў лепшыя гады свайго жыцця, вялікія сродкі «з убогае своее маетности народу моему услугую», у ленінградскай бібліятэцы зацікавіць якога-небудзь навуковага супрацоўніка, а для нас, беларусаў, тварэнне В. Цяпінскага не мае цаны. Тым больш, што «Прадмова» яго надзвычай сугучная нашаму часу — часу адраджэння роднай мовы і культуры.

1990 год для В. Цяпінскага — юбілейны. Нямала фактаў сведчыць, што сёлета — спаўняецца 450 гадоў з дня яго нараджэння.

Так, выдатны даследчык творчасці В. Цяпінскага М. Доўнар-Запольскі выказаў меркаванне, што ў 1564 годзе ў час судовага працэсу з Ю. Осцікам, В. Цяпінскаму было не менш 25-ці гадоў. Большасць астатніх даследчыкаў і Беларуская Савецкая Энцыклапедыя падаюць, што ён нарадзіўся каля 1540 года. «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» час яго нараджэння адносіць да 1530-ых або пачатку 1540-ых гадоў. «Польскі слоўнік біяграфічны», на які я ўжо спасылаўся, сведчыць, што В. Цяпінскі нарадзіўся каля 1530 года. Гравюрны партрэт В. Цяпінскага, які хутчэй за ўсё быў выкананы ў 1580 гадах, адлюстраваў твар пажылога, задуменнага чалавека, якому не менш як 40 год ад нараджэння.

Вывучаючы розныя літаратурныя крыніцы, я звярнуў увагу на некаторыя супярэчнасці, а то і неахайнасць. Напрыклад, Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (том 11, стар. 164), змяшчаючы звесткі пра вёску Цяпіна, падае, што яна знаходзіцца за 7 кіламетраў ад Чашнікаў (і гэта правільна), а крыху ніжэй, праз 9 радкоў, вёска Цяпіна ўжо аказваецца «каля Лепеля», хоць ад Цяпіна да Лепеля каля 25-ці кіламетраў.

Далей. Вядома, што ў студзені 1604 года Полацкі гарадскі суд разглядаў справу аб падзеле маёнтка В. Цяпінскага паміж яго сынамі. А ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» ўжо чытаем, што Полацкі гарадскі суд разглядаў справу аб падзеле маёнтка не паміж сынамі В. Цяпінскага, а паміж сынамі і яго жонкай.

Аднак яшчэ больш супярэчлівыя звесткі дае «Слоўнік геаграфічны каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх» (Варшава, 1880, т. 1). У артыкуле пра вёску Цяпіна гаворыцца, што яна пад канец XVI стагоддзя была спадчынай Мікалая Стучкі, а ў 1597 годзе гэты маёнтак дастаўся сыну Стучкі Крыштофу. Ён у 1601 годзе прадаў маёнтак «...князю Станіславу Свірскаму за суму 1200 коп грошай літоўскіх. Князь Свірскі ў 1616 годзе разам са сваёй жонкай Аннай Лукомскай прадаў маёнтак з прыкупленымі землямі за 4000 коп грошай літоўскіх Крыштофу Свідле». Маёнтак яшчэ не адзін раз, у 1641, у 1675, у 1860 гадах пераходзіў ад аднаго ўладальніка да другога. Што з гэтага вынікае?

Па-першае, што ўжо ў 1597 годзе маёнтак не належаў В. Цяпінскаму. Значыць, у 1604 годзе яго сыны не маглі судзіцца за тое, што не належала іх бацьку. Па-другое, можна думаць, што сам В. Цяпінскі збыў маёнтак у канцы 1590 гадоў Мікалаю Стучку, а апошнія гады жыцця правёў у Латыгалічах. І калі ў студзені 1604 г. сыны В. Цяпінскага Абрахам і Табіяш судзіліся за «садзібу старую небошчыка отца іх», дык ці не судзіліся яны за Латыгалічы?

Не абысціся без дапамогі кампетэнтных людзей і ў першую чаргу археолагаў: усё-такі, напэўна, трэба правесці раскопкі на могілках у Цяпіне і Латыгалічах. Спадзяюся таксама на дапамогу літаратуразнаўцаў і гісторыкаў. Думаю, агульнымі намаганнямі можна вызначыць апошняе месца жыцця, а значыць — і месца пахавання В. Цяпінскага.

**Барыс БЕЛЯЖЭНКА.**
г. Віцебск.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01644 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.